ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА МАСТАЦТВА

30 ЛІПЕНЯ 1993г № 30 (3700)





Ці лёгка чалавеку заходняй культуры жыць у іншым культурным і моўным асяроддзі, называемым на яго радзіме «нетрадыцыйным», і вывучаць яго? Каб падтрымаць і заахвоціць такіх даследчыкаў, у ЗША існуе адмысловая стыпендыя Фулбрайта. Першай стыпендыяткай-даследчыцай беларускай культуры — стала музыколаг, прафесар універсітэта Паўночнай Караліны Марыя Паўліна Сурвіла.

Зрэшты, беларускае асяроддзе не чужое для яе. Марыя Паўліна нарадзілася ў Мадрыдзе, але ў беларускай сям'і, дзяцінства правяла ў Парыжы. Потым жыла ў Канадзе, ЗША. Лёс зямлі продкаў заўсёды выклікаў яе цікаўнасць...

Цяпер Паўліна, як стыпендыятка сенатара Фулбрайта, жыве ў Мінску і працуе над доктарскай дысертацыяй аб беларускай этнамузыкалогіі.

**Фота У.ПАНАДЫ**

Кола дзён

***У каторы раз вымушаны канстатаваць: дзіўная краіна Расія, непрадказальныя ўчынкі яе лідэраў. Ды і невядома, хто сёння ёю кіруе: прэзідэнт, альбо спікер парламента, альбо прэм'ер-міністр, альбо старшыня нацыянальнага банка... Падобна на тое, што ніхто, альбо ўсе разам і кожны па-свойму. А ў сямі нянек заўсёды... вінаваты стрэлачнік: просты народ. Так і здарылася падчас апошняй расійскай дзяржаўнай акцыі — абмену грошай. Зараз «няньку» наладзілі сапраўднае сацыялістычнае спаборніцтва — хто з іх добры, а хто яшчэ лепшы, хто не ведаў пра абмен нічога, а хто яшчэ менш... Шкада толькі, што падзеі ў суседняй дзяржаве па-ранейшаму адчувальна закранаюць Беларусь. Каб стаць незалежнымі, трох гадоў нам не хапіла. Колькі ж трэба?***

## ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

Плённым быў візіт беларускай дзяржаўнай дэлегацыі ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Падпісаны шэраг важных для Беларусі дакументаў. ЗША абяцалі ўсялякую падтрымку дзяржаве, якая першай у свеце добраахвотна адмовілася ад ядзернай зброі. Паводле паведамленняў друку, цэнтральнай тэмай перамоў у Вашынгтоне была праблема выбару Беларуссю стратэгічнага шляху, палітычнай арыентацыі: на Усход /Расія/, альбо на Захад /Еўропа/. Насцярожваюць, праўда, словы С.Шушкевіча, выказаныя пасля перамоў з Б.Клінтанам: «Нашы добрыя адносіны з Расіяй адпавядаюць інтарэсам Злучаных Штатаў Амерыкі». Ці не новае гэта апраўданне таго, што беларускія палітыкі плятуцца ў хвасце расійскіх палітыкаў.

## «СЕНСАЦЫЯ» ТЫДНЯ

24 ліпеня Нацыянальны банк Расіі аб'явіў аб абмене грашовых купюр выпуску 1961—1992 гадоў на купюры 1993 года. Нечаканы абмен быў хіба што для простага люду. Новая наменклатура і мафія даўно ўжо пачалі абмен расійскіх рублёў на долары /прыгадайце нядаўняе падзенне курсу долара/ і на «зайчыкі» /прыгадайце і падзенне курсу «зайчыкаў» да рубля/... Беларусь жа і на гэты раз не рашылася на ўвядзенне ўласнай валюты. А значыць у нас наперадзе, як мінімум, яшчэ адна «рэформа».

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Наша самастойнасць, паслядоўныя крокі да бяз'ядзернасці, імкненне да нейтралітэту адпавядаюць і запаветным марам беларускага народа, і жаданню сусветнай супольнасці ўсталяваць мір і спакой у Еўропе, ва ўсім свеце. Гаворка аб тым, што замацаванне нашых добрых сувязей са Злучанымі Штатамі Амерыкі дрэнна адбіваецца на нашых адносінах з Расіяй і іншымі краінамі СНД, не мае пад сабой ніякіх падстаў: і Беларусі, і ЗША, і краінам СНД аднолькава важна, каб Расія была заможнай, стабільнай, дэмакратычнай дзяржавай... Няпросты шлях да рэальнай самастойнасці, да дабрабыту, да сапраўды дастойнага жыцця, але мы ідзём гэтым шляхам. Ідзём, пераадольваючы не толькі палітычныя і эканамічныя складанасці, аднак, на жаль, і спякоту і сушу лета 1992 года, і паводку гэтага года. Будзем жа мужнымі ва ўсіх гэтых выпрабаваннях і прыйдзем да Беларусі».

*/З выступлення Старшыні ВС Беларусі С.Шушкевіча па Беларускім тэлебачанні і радыё 27 ліпеня 1993 года/*

## СВЯТА ТЫДНЯ

У трэці раз Беларусь святкавала Дзень Незалежнасці. Новае свята новай Беларусі. Аднак адзначалі мы яго па-старому: вывешванне сцягоў /рэдка дзе/, ускладанне кветак, урачысты сход і ўрачысты канцэрт, а позна ўвечары — салют.

## ЗВАРОТ ТЫДНЯ

Сябры Управы БНФ вырашылі стварыць аргкамітэт па святкаванні 5 верасня Дня вайсковай славы і звярнуліся да ўсіх дэмакратычных арганізацый краіны з заклікам далучыцца да работы аргкамітэта. Цікава, ці далучыцца да аргкамітэта Міністэрства абароны незалежнай Беларусі?

## НЯШЧАСЦЕ ТЫДНЯ

Працяглыя дажджы выклікалі летнюю паводку на рэках паўднёвых раёнаў Беларусі. Затоплены тысячы гектараў зямлі, тысячы дамоў у вёсках і гарадах Гомельшчыны і Брэстчыны. Урад стварыў спецыяльную камісію па аказанні дапамогі пацярпелым. Страты ад паводкі ўжо сёння ацэньваюцца ў сотні мільёнаў рублёў.

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ У КОЖНАГА СВАЯ



Асабіста я падзяляю думку тых, хто лічыць Днём Незалежнасці 25 сакавіка. Бо не было б Беларускай Народнай Рэспублікі, не было б і Беларускай ССР /паўнавартаснай дзяржавай савецкую саюзную рэспубліку назваць нельга, ды ўсё ж не «Северо-Западный край», не «Западная область», не губерня РСФСР/. А як паказаў вопыт дэмантажу СССР, чым вышэй дзяржаўна-тэрытарыяльны статус народа, тым лягчэй яму вырвацца з імперскіх абдымкаў Масквы.

Ператварэнне БССР у Рэспубліку Беларусь — нацыянальна-дэмакратычная рэвалюцыя, якая здзейснілася без гвалту і крыві. Дакладней, гэта адзін з этапаў рэвалюцыі, бо дасягненне сапраўднай незалежнасці /найперш, эканамічнай/ — наперадзе.

Такім чынам, 27 ліпеня, дзень прыняцця Дэкларацыі, для мяне ў гістарычным кантэксце дата другасная, але ўсё ж вартая чырвонай адзнакі ў календары.

Афіцыйныя імпрэзы з нагоды трэцяй гадавіны прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі пакінулі ўражанне дваістага стаўлення ўлады да гэтага дня: не святкаваць нельга, а святкаваць не хочацца.

Урачыстае пасяджэнне са святочным канцэртам у філармоніі было, і цэнтральны праспект сталіцы сяк-так да свята ўпрыгожылі, вянкі да афіцыйнай святыні ўскладалі, сродкі масавай інфармацыі пра свята не забыліся. Але ўсё — неяк без радасці, без натхнення...

Нікому не падабаецца дзейнічаць супраць уласных жаданняў. Аб намерах тых, хто зараз пры ўладзе, можна прачытаць на старонках падкантрольнай Саўміну прэсы: прызнаць Белавежскія пагадненні гістарычнай памылкай, аднавіць Савецкі Саюз. Гэтым людзям свята Незалежнасці даспадобы быць не можа, але ж свята — дзяржаўнае /як Герб і Сцяг, якія ім таксама не даспадобы/. Таму і без натхнення...

Скажам, лагічна было б упрыгожыць горад у Дзень Незалежнасці колерамі нацыянальнага сцяга. Між тым, у аздобе праспекта быў ці не ўвесь вясёлкавы спектр, усе колеры, акрамя нацыянальных. А дамінавала чамусьці аранжава-фіялетавая гама /для недасведчаных удакладню: аранжавы і фіялетавы — гэта геральдычныя колеры каралеўскай дынастыі Нідэрландаў/.

Вянкі ад Вярхоўнага Савета, урада, Міністэрства абароны і Праваслаўнай царквы ўскладаліся да помніка-абеліска на плошчы Перамогі. Можа, яно і не лішняе памянуць у гэты дзень суайчыннікаў, загінуўшых у Другой сусветнай вайне. Не ставячы пад сумненне подзвіг савецкага салдата, ці не варта ўсё ж памятаць, што Перамога — плён ягонай мужнасці і ахвярніцтва, трапіла ў брудныя рукі, спрыяла ўмацаванню рэжыму, які ад фашызму няшмат чым адрозніваўся. Акрамя таго, у Другой сусветнай вайне Беларусь страціла на карысць Польшчы частку сваёй тэрыторыі — Беласточчыну. Дык ці такія слаўныя пераможцы мы?

Пакуль што сталіца наша не мае мемарыяла ў гонар барацьбітоў за незалежнасць Беларусі /не блытаць з «борцами за власть Советов»/. Калі-небудзь, верыцца, ён паўстане на плошчы Незалежнасці. А пакуль кветкі і вянкі можна ўскладаць да помніка Прароку Адраджэння Янку Купалу.

Не дзіва, што ў шэрагу газет аб Незалежнасці пісалася ў іранічным альбо скептычным тоне, па сутнасці, ставілася пад сумненне неабходнасць будаўніцтва Беларускай дзяржавы. Калі ўтварэнне БССР калісь трактавалася як падарунак бальшавіцкага Кастрычніка, дык Незалежнасць трактуецца сёння, як падарунак Жніўня 1991 года. І зноў мы павінны быць удзячны Маскве... Баюся, што некаторых гарбатых, згодна расейскай прымаўцы, можа выпраміць толькі сырая зямля... Афіцыйныя асобы /некаторыя/ ля мікрафона, сказаўшы для прыліку некалькі слоў пра суверэнітэт, хуценька заводзілі іншую гаворку, з якой вынікала, што незалежнасць — гэта сёння не актуальна, а вось парушаныя ў выніку распаду СССР эканамічныя сувязі... Зноў сцвярджалася, што без расейскай сыравіны і камплектуючых Беларусь можа загрузіць сваю вытворчасць толькі на чатыры працэнты /скуль узялася гэта лічба — ніхто, дарэчы, не ведае/ ... Гэтых прыхільнікаў аднаўлення СССР нават не збянтэжыў той «падарунак», які Масква прыпаднесла Беларусі /і ўсім краінам рублёвай зоны/ якраз напярэдадні нашага свята — грашовая рэформа, якая моцна ўдарыла па беларускай эканоміцы. Згодна з міжурадавымі пагадненнямі, аб такіх акцыях Расія павінна папярэджваць сваіх эканамічных партнёраў за паўгода. Але з гістарычнага вопыту вядома, як бальшавікі /а гэтая рэформа — чысцейшы эканамічны бальшавізм/ ставяцца да сваіх абяцанняў, да міжнародных абавязацельстваў. Сёння ў Расіі высвятляюць, хто вінаваты: Хазбулатаў, Чарнамырдзін, Расійскі банк альбо прэзідэнт РФ. Відаць, гэта надоўга.

На Беларусі сапраўды хворая эканоміка, але, гледзячы на ўсход, бачыш: адтуль здароўе не прыйдзе.

Здаровы сэнс я адчуў у выступленні Станіслава Шушкевіча па беларускім тэлебачанні з нагоды Дня Незалежнасці. Старшыня Вярхоўнага Савета атрымаў падтрымку сваёй лініі на нейтралітэт і бяз'ядзернасць краіны з боку самай уплывовай дзяржавы свету — Злучаных Штатаў Амерыкі. Гэта, безумоўна, узняло ягоны прэстыж і ў вачах прыхільнікаў, і вачах нядобразычліўцаў, умацавала ягоныя пазіцыі як палітычнага лідэра. Можа, таму і гаварыў Шушкевіч не пра традыцыйную ўжо «згоду», а пра рэальныя праблемы нашай краіны. Ён нават назваў вінаватых у тым, што не рухаюцца з месца ні эканамічная, ні палітычная рэформы. Гэта — найперш выканаўчая ўлада /урад/ і большасць у Вярхоўным Савеце. Здавалася, яшчэ крыху — і ён назаве прозвішчы, але яшчэ, мабыць, не час...

А т.Кебіч у гэты дзень быў на вайскова-спартыўнай імпрэзе ва Уруччы, у асяродку ветэранаў і генералаў, іншых чыноўнікаў Міністэрства абароны. Сярод сваіх.

Вярнуся да таго, што гаварыў у пачатку. Кожны разумее Незалежнасць па-свойму. Адзін — як умову пабудовы на Беларусі цывілізаванага грамадства, дзе пануе закон і здаровы сэнс, другі — як магчымасць пабудаваць на дзяржаўныя грошы катэдж і ўвогуле свой дабрабыт, як незалежнасць ад закона і маралі. Паміж імі ніколі не будзе згоды.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Кола дзён

# ВОЛЯ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

*По нашых назіраннях, Першы з'езд беларусаў свету, што адбыўся ў Мінску 8—10 ліпеня гг., не набыў належнага асвятлення ў рэспубліканскіх сродках масавай інфармацыі. Што тут прычынаю — ці то інерцыя мыслення журналістаў, увагу якіх больш прыцягваюць «гучныя» мерапрыемствы, як правіла, пад непадзельнай згідай урада, ці то якраз пэўная пазіцыя — проціпазіцыя — урадавай прэсы і тэлебачання /бо пэўныя тэлесюжэты, прысвечаныя з'езду, былі проста бездапаможныя... / — невядома.*

*Але з'езд сусветнай беларускай супольнасці адбыўся, і з палітычнай гісторыі Беларусі яго — замоўчваннем — ужо не выключыш; дакладней, час пакажа, што ў гэтай гісторыі было сапраўднага і што застанецца надоўга. Думаецца, Першы з'езд беларусаў свету сімвалізаваў выяўленне і ўключэнне ў грамадскі працэс на Беларусі, бадай, самага моцнага, мяркуючы па прадстаўнічасці, голасу — той самай нацыянальнай супольнасці, уласна самога суб'екта дзяржавы, які дагэтуль у палітычным сэнсе выступаў расчлянёным на мноства грамадска-палітычных утварэнняў. Цяпер гэты суб'ект, дзякуючы намаганням Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», як бы сабраны ў адзінае.*

*Няма больш моцнай сілы ў сусветнай палітыцы, чым канцэнтраваны голас народа — утваральніка дзяржавы, прадстаўнікоў яго дыяспары. Калі народу не даюць — гэта па-нашаму, па-савецку — выказацца праз рэферэндум, ён выказваецца як грамадзянская супольнасць, — і невядома яшчэ, у якім выпадку голас народа больш моцны і ўладарны...*

*Сёння мы друкуем асноўныя дакументы з"езда.*

## ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Браты і сёстры!

Доўгія і складаныя пуцявіны вялі да паяднання беларускай нацыі, воляю лёсу раскіданай у свеце. Амаль усе еўрапейскія народы ўжо даўно перажылі сваё станаўленне ў якасці нацыянальнага адзінства. Перамогі і страты згуртавалі іх, умацавалі іх сілу і волю ў імкненні да самастойнага жыцця. Беларусы ж усё яшчэ пакутуюць на раздарожжы свайго гістарычнага шляху.

Але надышоў час вырашаць свой лёс. Цяпер альбо ніколі! Беларусь атрымала гістарычны шанц набыць рэальную дзяржаўнасць, самастойнасць, поўны суверэнітэт. І гэты шанц неабходна выкарыстаць.

Мы павінны мабілізаваць усе сілы, каб не толькі адстаяць першыя поступы дэмакратыі, незалежнасці, нацыянальнага адраджэння, але і рушыць далей, да вялікіх, зорных здзяйсненняў — адбудовы агульнага Беларускага Дому. Гэту высокую, наканаваную Богам місію мы здолеем выканаць толькі тады, калі адбудзецца ўсенароднае абуджэнне да свядомага нацыянальнага жыцця, калі вернем сабе гістарычную памяць, якую ў нас адбіралі цэлыя стагоддзі, глыбока ўсвядомім, хто мы ёсць і кім павінны быць у гэтым свеце. Мы можам ажыццявіць гістарычную справядлівасць і назаўсёды замацаваць незалежную Беларусь на карце Еўропы не як геаграфічнае паняцце, а як шанаваную, паўнавартасную дзяржаву беларускага народа і іншых народаў, што здаўна жывуць на нашай зямлі.

Дасягнуць гэтага можна, толькі аб'яднаўшы сілы беларусаў на Бацькаўшчыне і тых яе адданых дзяцей, што жывуць па-за межамі Беларусі, але захавалі ў сваіх сэрцах любоў да яе. Адольваючы ўсе перашкоды і нягоды, мы зможам дайсці да жаданай свабоды, зладзіць цывілізаванае, заможнае і культурнае жыццё для сябе і сваіх нашчадкаў.

Жыве Беларусь!

## ДЭКЛАРАЦЫЯ АБ ПРЫНЦЫПАХ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ДЗЯРЖАЎНАГА БУДАЎНІЦТВА

Першы з'езд беларусаў свету адбываецца ў год святкавання 75-х угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзеячы БНР распачалі працэс практычнага адраджэння беларускай дзяржаўнасці. Цяпер стварыліся рэальныя ўмовы для яго паспяховага завяршэння. 27 ліпеня 1990 г. Вярхоўны Савет прыняў, а 25 жніўня 1991 г. надаў сілу Канстытуцыйнага закона Дэкларацыі аб незалежнасці Беларусі.

Гэтыя акты стварылі юрыдычны падмурак для адбудовы новай беларускай дзяржавы на прынцыпах незалежнасці, дэмакратыі, павагі да правоў асобы і права беларускага народа на нацыянальнае адраджэнне.

Рэалізацыі гэтай спрадвечнай мары беларусаў у цяперашніх умовах спрыяюць як унутраныя, так і міжнародныя абставіны. Таталітарная сацыяльна-палітычная сістэма ў Беларусі аб'ектыўна вычарпала свае магчымасці і не мае гістарычнай перспектывы. На абсягах былой савецкай імперыі распачаліся працэсы суверэнізацыі, нацыянальнага і эканамічнага адраджэння многіх народаў, якія павінны набыць незваротны характар. Толькі пры ўмове дакладнага разумення асаблівасцяў гістарычнай сітуацыі ўсімі палітычнымі сіламі грамадства з'явяцца падставы для нацыянальнага аб'яднання дзеля сумеснай працы на карысць нашай Бацькаўшчыне, яе палітычнага, гістарычнага і культурнага адраджэння.

Мы, удзельнікі Першага з'езда беларусаў свету, бачым будучыню вольнай, дэмакратычнай Беларусі як унітарнай, прававой, бяз'ядзернай дзяржавы, якая праводзіць палітыку міру і ўзаемакарысных добрасуседскіх адносін з усімі краінамі свету, якая мае развітую эканоміку, заснаваную на розных формах уласнасці, гарантуе сваім грамадзянам агульнапрызнаныя правы чалавека і клапоціцца пра стварэнне спрыяльных умоў для развіцця культуры беларускага народа, якая прызнае найвышэйшай мэтай дасягненне агульнага дабра і сацыяльнай справядлівасці ў грамадстве.

Мы лічым, што распачаць гэтую агромністую працу можа і павінен новы парламент, абраны на падставе дэмакратычнага закона, які створыць умовы для аб'ектыўнага волевыяўлення народа. Улічваючы небяспечны стан эканомікі і відавочную няздольнасць сённяшняй улады ажыццявіць карэнныя і хуткія палітычныя і эканамічныя рэформы, якія б разняволілі творчую актыўнасць народа, мы заклікаем народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прыспешыць новыя выбары. Цяперашні склад Вярхоўнага Савета прыняў шэраг прынцыпова важных рашэнняў і ўжо па гэтай прычыне застанецца ў гісторыі Беларусі. Але дзеля дабра нашага народа і захавання ўласнай годнасці ён мусіць зрабіць апошні адказны крок — забяспечыць канстытуцыйны і мірны шлях да пабудовы сапраўды незалежнай і заможнай Беларускай дзяржавы. Такі шлях ёсць — гэта правядзенне рэферэндуму, за які выказалася каля 440 тыс. грамадзян Беларусі. Грамадская згода і супрацоўніцтва — гэта тыя каштоўнасці, якія павінны быць захаваны.

Найважнейшы прынцып адбудовы беларускай дзяржаўнасці — правядзенне палітыкі нейтралітэту. Імкненне да гэтага зафіксавана ў Дэкларацыі аб незалежнасці. Таму няма падстаў для далучэння да якіх-небудзь ваенных саюзаў. Права на нейтралітэт Беларусь выпакутавала і акупіла незлічонымі ахвярамі ў многіх войнах.

Свабода — гэта найважнейшая каштоўнасць. Толькі свабода, падмацаваная сваёй дзяржаўнасцю, стварае ўмовы для самарэалізацыі ўсіх патэнцыяльных магчымасцей народа. Мы жывём у час, калі гэта адвечная мара беларусаў можа быць здзейснена. Будзем жа годнымі ўскладзенай на нас лёсам высокай місіі!

## ЗАЯВА ПА ВАЙСКОВЫМ ПЫТАННІ

З'езд выказвае свой вялікі непакой сітуацыяй, якая склалася ў войску незалежнай Беларусі — адным з найважнейшых дзяржаўных інстытутаў, без якога, як вынікае з гістарычнага вопыту нашага і іншых народаў, немагчыма гарантаваць самое існаванне дзяржавы.

З'езд адзначае, што Беларусь, утрымліваючы за свой кошт непамерна велізарную збройную сілу, дагэтуль не мае надзейнага адданага справе абароны беларускай дзяржаўнасці войска. У тых вайсковых адзінках, якія зараз называюць Узброенымі Сіламі Беларусі, пануюць негатыўныя, пагардлівыя адносіны да яе незалежнасці і нацыянальнага адраджэння. Большасць вайскоўцаў варожа ставіцца да беларускай мовы, не спыняюцца спробы фальсіфікацыі беларускай гісторыі, асабліва тых яе перыядаў, якія звязаны з войнамі супраць усходняга дэспатызму. Дагэтуль у вайсковай вопратцы ўжываецца камуністычная імперская сімволіка; у войску не спыняецца, і нават пашыраецца, пераслед патрыятычна настроеных вайскоўцаў. Шалёнаму цкаванню падвяргаюцца сапраўдныя патрыёты Беларусі, да канца адданыя ідэі беларускай незалежнасці і Адраджэння — сябры Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў. Ва ўмовах супрацьдзеяння з боку асоб, зараз кіруючых беларускімі ўзброенымі сіламі, яны распрацавалі канцэпцыю стварэння Беларускага войска і шмат зрабілі для яе прапаганды і рэалізацыі. Кіраўніцтва Міністэрства абароны перашкаджае пераводу на Радзіму афіцэраў беларусаў. Нізкія маральны стан і дысцыпліна ў войску абумоўлены няздольнасцю вайсковага кіраўніцтва наладзіць выхаваўчую працу на грунце беларускага патрыятызму.

З'езд лічыць, што асноўнай прычынай захавання такога становішча ў войску з'яўляецца ўрадавая вайсковая палітыка, пры якой на ключавыя пасады ва ўзброеных сілах прызначаюцца асобы, якія адмоўна ставяцца да незалежнасці Беларусі, яе адраджэння і свядома перашкаджаюць стварэнню сапраўды беларускага войска.

З'езд патрабуе ад урада Беларусі рашучых захадаў па неадкладнай беларусізацыі войска і навядзенні парадку ў ім. З'езд таксама патрабуе аднаўлення на вайсковай службе падпалкоўніка Міколы Статкевіча і іншых адстаўнікоў БЗВ, пакарання вінаватых у іх незаконным звальненні.

## ЗВАРОТ ДА ПАРЛАМЕНТА І ЎРАДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Мы, удзельнікі Першага з'езда беларусаў свету, бачым асноўную мэту нашага супольнага дзеяння ў кансалідацыі нацыі дзеля духоўнага, дзяржаўнага і эканамічнага адраджэння нашай Бацькаўшчыны. Тыя з нас, хто жыве па-за межамі Беларусі, хацелі б пачуваць сябе неад'емнаю часткаю беларускага народа і ведаць, што Радзіма для ўсіх сваіх дзяцей з'яўляецца роднаю маці. Доўгія гады значная частка беларускай дыяспары была адлучана ад Бацькаўшчыны, і мы спадзяемся, што гэтыя змрочныя часы незваротна мінулі. Рэспубліка Беларусь як самастойная, цывілізаваная дзяржава, павінна стаць апораю і надзеяй для ўсіх беларусаў у свеце, дзе б яны ні жылі. Мы заклікаем дзяржаўныя ўлады Рэспублікі Беларусь, а таксама грамадскія арганізацыі і рухі спрыяць ажыццяўленню гэтай святой справы.

На працягу трохдзённай працы з'езда яго ўдзельнікамі былі выказаны прапановы, просьбы, пажаданні, скіраваныя на вырашэнне праблем беларусаў замежжа па задавальненні іх культурных, жыццёвых і іншых патрэб. За кожным словам, выказаным на з'ездзе, стаяць лёсы жывых людзей, нашых суродзічаў. Асабліва ўскладнілася жыццё многіх беларусаў у краінах блізкага замежжа з-за нестабільнасці палітычнай і эканамічнай сітуацыі. Не маюць трывалых сувязяў з Радзімаю і беларусы заходняй дыяспары. Большасць з гэтых пытанняў не можа быць вырашана без удзелу дзяржаўных улад Рэспублікі Беларусь, якія сёння павінны несці на сабе абавязак клапаціцца пра краіну і яе народ.

Выказваючы наша агульнае пажаданне, даводзім да ведама парламента і ўрада Рэспублікі Беларусь наступныя канкрэтныя прапановы па ўсталяванні ўсебаковых сувязей з беларусамі замежжа і аказанні дапамогі беларускай дыяспары:

— спрыяць дзейнасці грамадскіх арганізацый, якія ладзяць сувязі з беларускім замежжам, стварыць роўныя ўмовы іх падтрымкі з боку дзяржавы;

— адкрыць прадстаўніцтвы Рэспублікі Беларусь ва ўсіх краінах, дзе ёсць беларуская дыяспара; пры прызначэнні афіцыйных прадстаўнікоў улічваць меркаванні на гэты кошт мясцовай беларускай дыяспары;

— выкарыстоўваць асоб з беларускай дыяспары як ганаровых консулаў, віцэ-консулаў і консульскіх агентаў Рэспублікі Беларусь у краінах іх пражывання згодна з Міжнароднай Венскай канвенцыяй аб консульскіх зносінах 1963 г.;

— разглядаць беларускую дыяспару як спрыяльны чыннік для ўладкавання добрых адносін з краінамі, дзе жывуць беларусы; ствараць у іх грамадска-інфармацыйныя цэнтры і гандлёвыя прадстаўніцтвы;

— у двухбаковых пагадненнях з краінамі, дзе жывуць беларусы, прадугледзець абавязковыя гарантыі абароны іх правоў і задавальнення нацыянальна-культурных патрэб згодна з Хельсінскімі пагадненнямі і іншымі міжнароднымі дакументамі па правах чалавека;

— мэтанакіравана аказваць дапамогу беларусам замежжа ў адкрыцці беларускіх культурна-асветных цэнтраў, рэлігійных храмаў, школ, бібліятэк, музеяў, развіцці перыядычнага друку, радыё- і тэлевяшчання, забяспечыць сістэматычны абмен неабходнай для замежных беларусаў рэтраспектыўнай і бягучай інфармацыяй паміж Беларуссю і краінамі, дзе жывуць беларусы;

— разглядаць беларускія грамадскія згуртаванні па-за межамі Беларусі як асяродкі беларускага нацыянальнага жыцця, аказваць ім рознабаковую дапамогу, у тым ліку і матэрыяльную;

— забяспечыць магчымасць для беларусаў замежжа падпіскі на перыядычныя і падпісныя выданні, што выходзяць у Беларусі;

— пашырыць тэхнічныя магчымасці рэдакцый Беларускай тэлерадыёкампаніі, якія вядуць вяшчанне на беларускае замежжа;

— надаваць статус найбольшага эканамічнага спрыяння прадпрымальнікам беларускага паходжання з эміграцыі, якія жадаюць прыняць удзел у вырашэнні эканамічных праблем нашай краіны /пры заключэнні кантрактаў, набыцці маёмасці, стварэнні сумесных прадпрыемстваў на Беларусі і г.д./;

— садзейнічаць беларусам замежжа ў атрыманні адукацыі на Беларусі, прымаць іх на вучобу ў навучальныя ўстановы на льготных умовах па хадайніцтве беларускіх суполак замежжа; ладзіць адукацыйны абмен між навучальнымі ўстановамі Беларусі і краін, дзе жывуць беларусы, з удзелам беларусаў замежжа;

— выкарыстоўваць усе магчымыя сродкі дзеля падключэння лепшых інтэлектуальных сіл беларускай дыяспары пры вырашэнні праблем духоўнага і эканамічнага адраджэння Бацькаўшчыны; разглядаць асоб беларускай дыяспары як магчымых дарадчыкаў, кансультантаў і спецыялістаў па адпаведных праблемах ва ўрадавых установах Рэспублікі Беларусь;

— распрацаваць і прыняць Закон Рэспублікі Беларусь аб мігрантах і бежанцах, стварыць адпаведную дзяржаўную структуру;

— забяспечыць умовы для вяртання на Радзіму асоб беларускай дыяспары /першачарговае перад іншымі перасяленцамі выдзяленне ці продаж зямельных участкаў, беспрацэнтных грашовых пазык, стварэнне іншых матэрыяльных выгод/;

— прадугледзець спрошчаную працэдуру надання беларускага грамадзянства асобам беларускай дыяспары, якія прыехалі ў краіну на сталае жыхарства;

— аднавіць беларускае грамадзянства тым беларусам замежжа, якія мелі яго да прыняцця Закона аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь і не маюць грамадзянства тых краін, дзе яны жывуць зараз;

— устанавіць бязвізавы рэжым уезду ў Беларусь для беларусаў блізкага замежжа;

— удзяляць асаблівую ўвагу праблемам беларусаў у рэгіёнах спрадвечнага пражывання беларускага этнасу /Віленшчына, Беласточчына, Смаленшчына, Браншчына, паўночная Чарнігаўшчына/, якія зараз уваходзяць у склад суседніх краін; выканаць у адносінах да іх прапановы, выказаныя на Першым з'ездзе беларусаў блізкага замежжа /снежань 1992 г./;

— Міністэрству замежных спраў выкарыстоўваць беларускую лацінку пры афармленні замежных пашпартоў і іншых неабходных дакументаў міжнародных зносін;

— падтрымаць ініцыятыву Навукова-асветнага Цэнтра імя Ф.Скарыны і выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» аб выданні энцыклапедычнага даведніка «Беларускае замежжа», стварыць для гэтага ў структуры Цэнтра спецыяльны аддзел;

— вырашыць пытанне аб рэабілітацыі замежных беларусаў — ахвяр сталінскіх рэпрэсій і аб выплаце ім адпаведнай кампенсацыі;

— заключыць пагадненні аб рэгулярным інфармацыйным абмене з тэлебачаннем Украіны, Літвы, Латвіі, Польшчы, Расіі з улікам патрэб беларускай дыяспары і нацыянальных меншасцей у Беларусі;

— аказаць неадкладную дапамогу віленскім беларусам у іх намаганнях па аднаўленні Віленскай беларускай гімназіі і музея імя І.Луцкевіча;

— аказаць падтрымку Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына» ў выданні газеты для беларусаў замежжа;

— дзеля забеспячэння патрэб вернікаў, як у Беларусі, так і па-за межамі, аказаць дапамогу ў справе перакладу і выдання Святога Пісання на беларускай мове;

— аказаць дапамогу ў вырашэнні такога важнага пытання для беларусаў на Беласточчыне, як вяртанне праваслаўнай царкве ў Польшчы Супрасльскага Свята-Благавешчанскага манастыра згодна з воляй фундатараў яго залажэння.

З'езд даводзіць да ведама парламента і ўрада думку пераважнай большасці ўдзельнікаў з'езда аб неабходнасці вырашэння наступных пытанняў, якія маюць агульнанацыянальнае значэнне:

— абвясціць дзяржаўным святам 25 Сакавіка — дзень абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі;

— спыніць выкарыстанне гімна былой БССР у якасці дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь, прыспешыць зацвярджэнне новага гімна, які павінен адпавядаць нацыянальным ідэалам беларускага народа;

— вярнуць сталіцы Рэспублікі Беларусь г.Мінску яго гістарычную назву — Менск.

# БЕЛАРУСЬ — НА КАРТУ СВЕТУ

*Мікола ГАНЬКО жыве ў Таронта. Ён старшыня згуртавання беларусаў Канады, адзін з заснавальнікаў Канадыйскага фонду «Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі». Падчас яго ўдзелу ў Першым з'ездзе беларусаў свету наш спецыяльны карэспандэнт меў з госцем гутарку, якую і прапаноўваем увазе чытачоў.*

**— Дык на чыіх праблемах, спадар Мікола, спынімся — беларусаў у Канадзе ці беларусаў у Беларусі?**

— Ці жыццё там, ці жыццё тут — праблемы былі і будуць, хаця пажадана, каб людзі абыходзіліся без іх. Асабіста я з тых, хто ніколі не глядзіць назад — толькі наперад.

**— Кажуць, збоку многае відаць лепей...**

— Трэці раз за апошнія гады прыязджаю ў Беларусь, і ўсё болей і болей новага адчыняецца пагляду. Каб сказалі — змяні жыццё, то не ведаў бы, з чаго і пачаць — ці з эканомікі, ці з адукавання, ці з культуры... Найперш, мабыць, з пераўзгадоўвання людзей. Старыя ідэалогіі аджылі свой час. Народы, якія здольны хутка пераменьвацца, заваёўваюць вялікія пазіцыі ў свеце. Звычайна як прыклад згадваюць Японію. А вазьміце Паўднёвую Карэю, Тайвань... Сам кітайскі народ застаецца ранейшым, а ягоная частка дынамічна развіваецца. Як зрушыць беларускі народ да такога самага дынамізму? «Застой» — слова дакладнае, гэта найперш застой мазгоў. Не будзе разумення гэтай простай рэчы ў вярхушкі — ніякага руху наперад чакаць не варта.

**—Што, на ваш погляд, перашкаджае такому дынамізму?**

— Залішняя цэнтралізацыя кіравання і засілле бюракратызму. Апошняе сустракаецца на кожным кроку і відно нават у дробязях, не кажучы ўжо пра сферу вытворчасці. Адзін з тэарэтыкаў новай глабальнай эканомікі разважае так: брыгадзір не мае права замяніць рабочага, бо яго самога мусіць замяняць вышэйшы кіраўнік. А вышэйшага — яшчэ вышэйшы, а таго — прэзідэнт фірмы. А хто будзе выконваць працу прэзідэнта? Прэзідэнт іншай фірмы, якая возьме ініцыятыву ў свае рукі. Або возьмем інстытут намесніцтва. У вашым разуменні ў нас яго проста не існуе. Калі ёсць у якой установе «віцэ», то ў яго іншая, самастойная функцыя. І, вядома, абавязак замяняць зверхніка, калі той не прысутны. Тут жа дзесяткі тысяч намеснікаў займаюцца немаведама чым. Сем чалавек носяць адну паперку, і гэта лічыцца нармальным. Так што ёсць над чым падумаць навукоўцам. Звонку, я ўпэўнены, новай арганізацыі працы ніхто не прынясе. Зрух пачнецца тады, калі ўлада стане на шлях прагрэсу і перастане трымацца таго, што напрацавана за 70 год. Яшчэ адзін тэарэтык эканомікі, прафесар Эдвард Дэмінг віну за недахопы ў вытворчай сферы ўскладае толькі на кіроўцаў, а не на рабочых. Згодна з яго тэорыяй пры эканамічным адставанні вярхі павінны паглядзець перш за ўсё на саміх сябе — наколькі яны кампетэнтныя і сумленныя.

**— Ці ёсць у Беларусі сілы, якія маглі б вывесці грамадства з тупіка?**

— Думаю, такія сілы ёсць. Трэба толькі адпаведных людзей паставіць на адпаведныя месцы, вось і ўсё. Нядаўна слухаў тэледыскусію па банкаўскай справе з удзелам дэпутатаў. Хвілінамі сорамна было: людзі не разумеюць таго, пра што гавораць. Як у нас кажуць — адны пра яблыкі, а другія пра апельсіны. Бязвартаснымі паперамі — рублямі — закідалі Беларусь і скардзяцца: усё даражэе. Нішто не даражэе — проста грошы падаюць у цане. Інфляцыя. Шушкевіча вінавацяць... А ён жа па сутнасці не мае ўлады.

**— Вы прысутнічалі на «круглым стале» па пытаннях дзяржаўнасці. Вашы ўражанні.**

— Там было шмат крытыкі, але адна крытыка, без канкрэтных прапаноў, не мае сэнсу. Каб усур'ёз узяліся за справу, то не дзесяцігоддзяў — трох год хапіла б для ўсталявання сапраўднай незалежнасці. Людзі нашы працавітыя, пашану маюць да працы. А што няма энерганосьбітаў ці яшчэ чаго, дык што тая ж Японія мае, акрамя скалаў ды вулканаў? Усё прывезена.

**— Што, на вашу думку, у самім народзе перашкаджае зменам да лепшага?**

— Нявольніцтва — вось найбольшая бяда. Дзвесце год падпарадкавання нешта ж значаць. Узяць, дапусцім, беларуса і англасакса. Нават калі апрануць іх аднолькава, вы іх усё роўна пазнаеце. Англасакс будзе крочыць просценька і глядзець па-над галовамі. А беларус унурыцца і пад ногі пазірацьме. Так навучылі, так прымусілі — быць пакорнымі.

**— Вы лічыце, што не так і лёгка нам узняць галовы ды перастаць згінацца?**

— Абсалютна так. Характар складваецца стагоддзямі, ён гістарычна абумоўлены. Эмігрант-беларус, які страціў усё, а пасля ашчадзіў крыху грошай, ён не проста пад страхам жыве — пад тэрорам. Ён ужо быў галодны, голы і з нічым, еў лупіны ў лагеры. Кожны другі армянін на эміграцыі займаецца бізнесам. Не скажу, што беларусы няздольныя да бізнесу, — часта яны баяцца пачаць. Сем раз адмераць, пакуль адрэжуць.

**— Мяркуючы па ўсім, вы маеце адносіны да сферы гаспадарання.**

— Я двойчы мяняў прафесію. Быў на будаўніцтве, ды мне апрыкрала цяганне, перавучыўся. Стаў адміністратарам вытворчасці, увайшоў у кіраўніцтва фірмы. Патэнцыял яе росту быў надзвычай высокі, мяне год не адпускалі на пенсію, шукаючы замену.

**— Ці даўно вы ўзначальваеце згуртаванне беларусаў Канады?**

— Чацвёрты год ужо. Да мяне была доктар Раіса Жук-Грышкевіч, яна таксама дэлегат з'езда беларусаў. З дапамогай камп'ютэра зрабіў пераўлік, дык у нас зарэгістравана недзе 600 сем'яў, г. зн. каля трох тысяч чалавек. Акрамя таго, я даўні сябра рады Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы /у радзе 8 духоўных асоб і 8 цывільных/. Без сваёй царквы, скажу я вам, беларусы не захаваліся б на замежжы. Вось чаму для мяне дзіўна, што на Беларусі да рэлігійнага жыцця ставяцца абыякава. Акрамя веры, царква дае духоўнае напаўненне — тое, чаго відавочна не стае нашаму народу. Часам мне здаецца, што гэта народ без душы. Або з чужой душой, устаўленай... Для нас жа, беларусаў Канады, Бог і Бацькаўшчына — адно.

**— Ці быў адток з беларускай дыяспары ў расейскую?**

— Амаль уся наша старая эміграцыя /перад першай сусветнай і паміж дзвюма войнамі/ пайшла ў расейскую царкву. Засталіся лічаныя, хто пачуваў сябе беларусам. Помню, як суайчыннік плакаў у царкве на каленях, пачуўшы роднае слова.

**— Што сёння падтрымлівае дух беларусаў Канады?**

— Беларуская дзяржаўнасць. Мы ганарыся, што ў нас зноў ёсць свая дзяржава, і хай яна яшчэ не стала на ногі — сам факт надзвычай важны. Рады мы і аднаўленню сымболікі, і гэтаму першаму з'езду.

**— Ці ёсць у вас вера ў новую Беларусь?**

— Ёсць магчымасць новага жыцця для Беларусі. Ці будзе яна выкарыстана — іншая справа. Усё залежыць ад людзей, ад усведамлення гістарычнага моманту, у якім мы сёння апынуліся. Кожны можа прылажыцца да адбудоўвання, аднаўлення народа, бацькаўшчыны, дзяржавы. Пакуль што маем парадокс: дзяржава беларуская па форме, а не па змесце. Зліквідаваць гэты парадокс — адна з задач часу. Калі я маю важныя сустрэчы ў Канадзе і гавару пра Беларусь, я кажу толькі пра пазітыўнае. Каб прыцягнуць увагу, каб пашыраліся кантакты з маёй радзімай. Беларусь трэба паставіць на карту свету, а інакш там застанецца белая пляма.

**— Дзякую за гутарку, спадар Мікола.**

**Гутарыла Г.КАРЖАНЕЎСКАЯ**

З пошты "ЛіМа"

# АДРАДЖЭННЕ:

## КАМУНІСТЫЧНЫ «ГЛОССАРИЙ»?

***Цяперашні дзень не перастае здзіўляць нежаданнем, калі не супраціўленнем дэрусіфікацыі нашага жыцця ва ўсіх сферах дзейнасці і асабліва ў галіне адукацыі, найперш вышэйшай.***

Чарговым прыкладам гэтага з'яўляецца план выпуску літаратуры выдавецтва «Вышэйшая школа» на 1994 год, якое запланавала выпусціць 70 пазіцый па 22 накірунках, пачынаючы ад агульных пытанняў навукі і культуры і завяршаючы дамаводствам. У іх ліку — 19 кніг на беларускай мове. Тут назіраецца пэўны прагрэс у параўнанні з мінулымі гадамі, калі ці не ўсе 100 працэнтаў дзяржаўнай выдавецкай прадукцыі для вышэйшай школы выдаваліся па-руску. Але калі падысці аналітычна, то выяўляецца, што перспектыва сацыялістычнай арыентацыі ў выдавецкай дзейнасці яшчэ далёка не канула ў вечнасць. Яна прысутнічае, як і ва ўсе перыяды пабудовы сацыялізму, у дзяржаўнай выдавецкай палітыцы і асабліва ў спробах адмаўлення магчымасцей беларускай мовы ў якасці асноўнага сродку данясення навуковай і вучэбнай інфармацыі. Завадатарамі тут выступаюць навукоўцы і выкладчыкі гуманітарнага профілю. Да прыкладу, нават «История Европы», як перакладная з французскай, даецца на рускай мове. Тут ужо ўсякія аргументы адсутнічаюць, бо нельга скарыстаць нават «права аўтара» выбіраць мову выдання.

Аналагічная сітуацыя назіраецца і ў спробах выдавецтва «Вышэйшая школа» пазнаёміць «шырокае кола чытачоў» са стваральнікамі прыгожага пісьменства Вялікабрытаніі і Амерыкі. Складальнікі Картэс, Судлянкова, Стулаў, «известные в Беларуси специалисты по английской литературе», палічылі, што бібліяграфічныя даведнікі «100 писателей Великобритании» і «100 писателей Америки» ў Беларусі неабходна выдаць на рускай мове, ну а калі патрэбна беларуская прысутнасць, то аўтары пакуль што абяцаюць яе змясціць толькі ў звестках «о переводе произведений на русский и белорусский языки». Ні больш, ні менш. Думаецца, няўжо скампанавальшчыкі гэтых зборнікаў атрымалі аўтарскае права на мову выдання ад саміх англійскіх і амерыканскіх пісьменнікаў — памерлых і жывых?

Асаблівую ўвагу ў перспектыўным плане выдавецтва прыцягваюць тыя пазіцыі, дзе пазначаны руска-беларускія прадметныя слоўнікі. Неабходнасць стварэння энцыклапедычных галіновых слоўнікаў на беларускай мове не выклікае сумненняў. На сённяшні дзень выдадзены такога тыпу юрыдычны слоўнік, рыхтуецца аналагічны па матэматыцы. Але дастаткова засяродзіцца на пазіцыях выдавецкага плана па раздзеле «Філасофія», каб пераканацца ў тым, што тут нічога падобнага рабіць не жадаюць. Напрыклад, студэнтам, выкладчыкам ВНУ, усім, хто цікавіцца філасофіяй, гісторыяй грамадскай думкі, прапануецца «Философский русско-белорусский словарь», дзе тэкставыя дэфініцыі /азначэнні/ галоўных філасофскіх паняццяў і катэгорый, біяграфіі мысліцеляў, у тым ліку філосафаў і асветнікаў Беларусі, будуць дадзены па-руску. Вось як, прыкладна, гэта будзе выглядаць: «МАТЕРИЯ /МАТЭРЫЯ/.

Философская категория для обозначения объективной реальности...» і г.д. /калі прытрымлівацца традыцыйнай марксісцка-ленінскай схемы/. Усё сведчыць аб тым, што рыхтуецца выданне звычайнага філасофскага слоўніка на рускай мове /аналагічна якому ў СССР, а цяпер у Расіі выдаваліся і выдаюцца амаль штогодна паўмільённымі тыражамі і ў вялікіх колькасцях дасылаюцца на Беларусь/, але з мэтаю лепшага яго праходжання па зацвярджальных інстанцыях аўтары «дазваляюць» аздобіць кожнае паняцце, напісанае прозвішча мысліцеля перакладам на беларускую мову і на гэтай падставе прыдаць слоўніку статус «русско-белорусского». Чаго тут больш: тактычнай хітрасці новых русіфікатараў ва ўмовах незалежнай краіны ці няведання элементарнага, што беларускі эквівалент філасофскай тэрміналогіі не вырастае з рускага азначэння? Аўтары слоўніка альбо не ведаюць /у што мала верыцца/, альбо ідэалагічна-традыцыйная перакананасць не дазваляе ім усвядоміць, што руская мова ні ў якім разе не можа быць пакладзена ў якасці ўзору «нормативной философской терминологии» як для беларускамоўнага, так нават і для рускамоўнага варыянту. Гэта тлумачыцца тым, што ўва ўсіх еўрапейскіх мовах, у тым ліку і ў рускай, адсутнічаюць асноўныя тэрміны філасофскай абстракцыі ўласнага паходжання. Калі ўзяць хоць бы самыя пашыраныя тэрміны, тыпу «аб'ект», «ідэя», «энергія», «філасофія», «дэдукцыя», «ідыялогія», «матэрыя», «інтэрпрэтацыя» і г.д., то ўсе яны старажытнагрэцкага ці лацінскага паходжання і больш-менш адаптаваныя да нацыянальнага маўлення. Уключэнне ж уласнабеларускіх слоў, якія выкарыстоўваюцца ў іншагаліновым ці побытавым ужытку, тыпу «якасць», «колькасць», «рух», «свядомасць», «лічба» і г.д., у арэал перакладу іх з рускай мовы з'яўляецца ідэалагічна-спекулятыўным. Бо гэта стварае бачнасць, што нават шырока выкарыстальныя беларускія словы выступаюць усяго толькі ў якасці перакладу з рускай мовы. А гэта ёсць не што іншае, як звычайнае імперскае блюзнерства.

Думаецца, што тут адлюстроўваецца асабістае разуменне мовы, «двуязычия», «інтэрнацыяналізму» аўтарамі-складальнікамі. Адным з іх з'яўляецца зусім нядаўні прафесійна-партыйны працаўнік доктар філасофіі, прафесар І.Антановіч, партыйным лёсам занесены ў Маскву і вокамгненным віхрам разбурэння СССР і забароны дзейнасці КПСС прыземлены зноў жа ў Мінску. Другі аўтар — маскоўскі прафесар Г.Ашын, спецыяліст перыяду «спелага сацыялізму» па праблемах ідэалагічнай барацьбы ў сучасным свеце, крытыцы сучасных буржуазных сацыялагічных канцэпцый. Ён, трэба думаць, увасабляе эталон класавага падыходу да творчасці «философов и просветителей Беларуси», якую абяцаюць шырока адлюстраваць складальнікі слоўніка. А можа, па савецкіх узорах суадносін інтэрнацыянальнага і нацыянальнага шаноўны маскоўскі прадстаўнік уключаны ў якасці маскоўскага аўтарытэту і візітатара «чысціні ідэйнасці» і з'яўляецца процівагай магчымаму тутэйшаму слоўнікаваму «сепаратызму»?

Адчуванне ніякаватасці ўзмацняецца ў працэсе азнаямлення з чарговай пазіцыяй «Вышэйшай школы» па раздзеле «Псіхалогія». Дактары псіхалагічных навук М.Дзячэнка і Л.Кандыбовіч, кнігі якіх «издавались в США, Китае, Чехо-Словакии и других странах», як падаецца ў рэкламе, прапануюць «Психологический русско-белорусский словарь». Не будзем аспрэчваць сусветныя памеры вядомасці аўтараў, але іх жаданне звесці вельмі вострую патрэбнасць выдання псіхалагічнага слоўніка па-беларуску да выдання руска-беларускага адпаведніка з тэкставым тлумачэннем паняццяў па-руску нельга зразумець нават дзеля пашырэння іх аўтарскай вядомасці і ў Беларусі.

Нежаданнем ні аўтара Аўчарэнкі, ні, што самае галоўнае, дзяржвыдавецтва адмовіцца ад прынцыпаў, выплываючых з каланіяльна-«сацыялістычнай» мінуўшчыны, тлумачыцца і намер выдання працы з экзатычным назовам «Психоаналитический глоссарий: Словарь-справочник», прысвечаны вучэнню З.Фрэйда. Гэты самы «глоссарий» /тлумачальны слоўнік састарэлых і малаўжывальных слоў/ мяркуецца таксама выдаваць на мове народа, які пражывае ў раёне Пскова—Кастрамы, а не ў Беларусі.

Спробы аўтараў згаданых слоўнікаў увесці ва ўжытак лексічны запас замежнага ці ўласна беларускага паходжання праз рускую арфаграфію можна зразумець толькі як жаданне залічыць на свой навукова-метадычны рахунак яшчэ адну распрацоўку і засведчыць свой «радыкалізм» у беларусізацыі. Але тут прысутнічае і глыбокі змястава-ідэалагічны сэнс. Менавіта: стварыць немагчымасць засваення складаных дэфініцый на беларускай мове; слоўнікава замацаваць немагчымасць пераходу на выкладанне прадметаў у ВНУ па-беларуску; скарыстаць ліміты дзяржаўных грошай і паперы на выданне прац, якія нічога супольнага не маюць з дэрусіфікацыяй выкладання гуманітарных навук.

З уласнае практыкі выкладання філасофіі і логікі ў БДПА мушу зазначыць, што адсутнасць падручнікавага і слоўнікавага фондаў на беларускай мове з'яўляецца не толькі прычынай, але і зачэпкаю шмат для каго ў іх нежаданні правядзення заняткаў на дзяржаўнай мове. І ў гэты час і камісія Вярхоўнага Савета па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны, і міністэрства адукацыі, і акадэмічныя інстытуты пусцілі на самапас выдавецкую дзейнасць, нягледзячы на тое, што ў бліжэйшыя два гады выкладанне гуманітарных навук мяркуецца поўнасцю перавесці на беларускую мову. Можна ўявіць, якую «падмогу» атрымаюць і выкладчыкі, і студэнты. Праўда, трэба зазначыць, што памкненні вышэйзгаданых аўтарскіх калектываў маюць і пазітыўны момант у якасці ілюстратыўнага матэрыялу, раскрываючага сутнасць «двуязычия», дзе беларускаму варыянту ўва ўсіх сферах жыцця наканаваны ў лепшым выпадку дужкі побытава-этнаграфічнай аздобы велікарускага панавання.

Змены, якія адбыліся апошнім часам у грамадстве, спрыяюць фіксацыі камуністычнага «глоссария» выключна як слоўніка састарэлых паняццяў, належачых недалёкай гісторыі. Спробы фармаваць новы погляд на гуманітарную адукацыю, падсілкоўваючыся ўчарашнімі напрацоўкамі «светлай будучыні», ідуць наперарэз дню сённяшняму. Задача дня — не дапусціць гэтага!

**Мікола АНЦЫПОВІЧ,**

**кандыдат філасофскіх навук, дацэнт Беларускай політэхнічнай акадэміі**

# РАСКОЛІНА Ў НАШЫМ СЭРЦЫ

ЭСЭ

## I

... Мы разгубленыя і напалоханыя. Сярод нас і вакол нас непрадказальная гульня інтарэсаў, супярэчлівасцей, уплываў. На нас пастаянна ўздзейнічае злавеснае поле чужога ўладарнага магнетызму. Кволыя замкі на пяску, пабудаваныя з сізіфавай апантанасцю нешматлікімі рэстаўратарамі нацыянальнага духу, лёгка змываюцца дзевятым валам гэтага магутнага поля. І мы амаль што страцілі найвышэйшы боскі дар — сваю адметнасць. Нашы пошукі бессістэмныя, іх вынікі — праблематычныя... Але мы вяртаемся з доўгай ссылкі ў бяспамяцтва на сваю зямлю, зруйнаваную і знявечаную многімі дзесяцігоддзямі чужой улады, на тую адзіную глебу, дзе толькі і можа прыняцца і ўзрасці душа нашага этнасу. Мы вяртаемся, як вярталіся яўрэі з Егіпта, па цярністым дне Мора свайго Лёсу. Мы ідзём упрыцемкі, пераадольваючы на сваім шляху бураломы варункаў і завалы Часу, а найперш саміх сябе. Мы вяртаемся і ў нашае ўчора, дзе слушна шукаем карані спрадвечнага нацыянальнага менталітэту, дзе «бяром урокі» дзеля нашага заўтра. Мы вяртаемся ў апошні раз, і назаўсёды. Нашае хваравітае ўсведамленне ліхаманкава спрабуе аддзяліць зярняты ад мякіны на чарговым драматычным вітку гісторыі. Тыя, хто добраахвотна ўзваліў на сябе абавязак — весці нацыю ў гэтыя цяжкія часы, безумоўна, энергетычна аслаблены многімі дзесяцігоддзямі барацьбы за самасцвярджэнне. Гэтая наша нацыянальная «надстройка» ўяўляе сабою надзвычай крохкі «танчэйшы слой», які амаль не мае сілкавання ад «базіса». Відаць, таму бел-чырвона-белыя ветразі нашай Надзеі не ўздымаюцца пакуль у выразным напрамку. Іх паралізаваў своеасаблівы штыль.

## II

Пільна ўглядаючыся ў твар нашай нацыі /а гэты твар у многім вызначае эліта/, заўважаеш нейкую прыгаломшанасць. Дарма спрабаваць дабіцца пэўнага меркавання, пэўнага адказу. Слушныя, на першы погляд, думкі пакідаюць ураджанне кастрыраванасці духу. Няма, за рэдкім выключэннем, энергетычнай моцы, выразнасці, канкрэтнасці. Бясконцае «бляянне» пра ўсё і ні пра што. У большасці сваёй — густая слоўная эквілібрыстыка ў расійскім стылі комплексу самакапання і самаўнічыжэння. А як жа патрэбны сёння энергічныя, смелыя, дзелавыя інтэлектуалы, здольныя кінуць выклік цудоўна адаптаванай да рэалій сістэме, здольныя папулярызаваць ідэю нацыянальнага Рэнесанса для ўсеагульнага ўспрымання. «Масы» прагнуць не толькі ядомай каўбасы, але і ядомага духоўнага прыварку.

Як жа пазбавіцца гэтай спадчыннай зацюканасці, аб'ектыўнай і суб'ектыўнай размякчэласці? Дзе ўзяць эліце цвёрдасць і энергію? Як захаваць, сабраць у адну жменю ўсе высілкі і памкненні лепшых сыноў народа беларускага? Мала чаму навучыла нас гісторыя — мы зноў трагічна раз'яднаны. Як ні прыкра, але і раз'яднанасць становіцца адметнай і характэрнай рысай беларусаў. Сёння мы паспешліва «дыферэнцыруемся» і займаем новыя барыкады, відаць, ужо для «апошняга бою». Многія даўно ўжо зарыентаваліся і хінуцца да старых «апекуноў» рашуча і аддана. «Лепшыя сыны» нацыі бачаць нашае шчасце ў двухмоўі і калектыўнай бяспецы. Мы ж маўкліва пазіраем, што будзе далей.

...На унікальнай духоўнай аўры беларускай нацыі адметна праглядаюцца цёмныя плямы былых грахоў нашых. Нашыя пракокі і іуды спалучаюцца на ёй самым дзіўным чынам: ад Пазняка да Кебіча, ад Быкава да Мысліўца, ад Шушкевіча да Булахава. Пладавітая зямля наша!.. Мы талерантныя і паспешліва падаем руку нават тым, каго ў цывілізаваным свеце не пусцілі б на парог. Таму мы і раз'ядноўваемся ўжо не адну сотню гадоў...

## III

Мы ўсе розныя ад Бога. Заўсёды былі «яны» і «мы». Спрадвеку ідзе змаганне боскага і д'ябальскага.

Нашая зямля заўсёды была ў эпіцэнтры гэтага змагання. Так склалася фатальна, гэта наш Лёс. Нашая прыстасаванасць да чужых энергетычных крыніц /у прамым і пераносным сэнсе/ вызначае і надалей усе варункі будучага жыцця. Дык няўжо ж наш шлях ідзе ў тупік? Не ўсё так адназначна. Адказ на гэта трэба шукаць у нашым дарэшты змучаным, аслепленым «свабодай» і «дэмакратыяй» «базісе». Толькі ў ім магчыма знайсці так патрэбную эліце энергетыку.

Але значная частка «лепшых», як ужо гаварылася вышэй, стабільна верыць у вызваленне з Усходу. Пра гэта штодзённа сведчаць дзяржаўныя /!/ сродкі масавай інфармацыі. Пачынаеш верыць у гэта сапраўды. Спрадвеку мы знаходзімся ў разрадным полі дзвюх энергетычных мас. І не на Урале, а на Беларусі сустракаюцца Еўропа з Азіяй! Відаць, адсюль і расколіна ў нашай існасці. Апошнія 200 гадоў мы грунтоўна прыкаваліся да імклівай расійскай калясніцы.

**...Краіна Мацюкоў,**
**І вечны яе Бой,**
**Дарыла нам з вякоў**
**Смяротны холад свой...**

Балючая гэта тэма — узаемадачыненні з Расіяй. Смяротнай можа быць для бедных беларусаў любая крайнасць. Але, відаць, усё ж патрэбна вызначыцца сёння ў сваіх адносінах да Матухны-Расіі, зразумець, урэшце, што «дарыла» і «дорыць» нам гэтая злавесная, супярэчлівая, але гэтак блізкая нам Краіна Мацюкоў...

**...Строгі профіль... Новы месія**
**Павучае праніклівым тонам,**
**Што адна толькі ў свеце Расія**
**Можа быць для нас камертонам...**

Так, не адзін тузін месіяў натхнёна пераконвае нас у неразрыўнай і святой еднасці з вялікім славянскім этнасам, пераконвае ў нашай інтэлектуальнай і энергетычнай незаможнасці. Такой настойлівай экспансіі ідэй не было ў нас і ў часы СССР. Чаго варты «плюралізм» афіцыёзу, і гаварыць залішне... Мы на самай справе ўцягнуты ў «Вечны Бой» нашага неспакойнага старэйшага брата, і любы «чых» у Маскве адразу адгукаецца ў нас землятрусам. Гістарычна склалася, што вялізная маса Расіі заўсёды навісала над намі непазбежным гнётам. Раз-пораз ледзяное дыханне яе «асвяжала» нашую памяркоўнасць, магнетычна паралізуючы волю. Калі бракавала «магнетызму», у ход ішлі больш важкія аргументы. Прыходзілі на нашую зямлю «Знакамітыя», імёны якіх і сёння займаюць пачэснае месца на сценах нашых дамоў, і пераконвалі неразумных «единокровных» брацікаў. Брацікі-беларусы спарадычна супакойваліся, размазваючы крывавыя слёзы. Усё гэта было, як было і тое, што старэйшыя браты і сваёю крывёю росна акрапілі нашы палеткі ў сутычках з агульным ворагам. І ўсё ж нам трэба вызначыцца. Магчыма, і прызнаць, што даўно сталі натуралізаванаю часткаю Краіны Мацюкоў, што зрасліся намёртва з яе супярэчлівай ментальнасцю. Прызнаць, што процьма звязак і нітачак, якія нас злучаюць, ператварыліся ў самакаштоўную пачвару, нажывай для якой і становіцца нашая душа, нашая адметнасць. Прызнаць, што нашая эліта, прайшоўшы дабротны і незваротны працэс «зліцця нацый», амаль не здольна ўспрымаць інакшыя камертоны...

«Русь, куда несёшься ты? Дай ответ. Не дает ответа!..» Не дае адказу гэтая дзіўная, неўтаймаваная і незацугляная краіна. І злавесны грукат апантаных каней /мы чуем яго кожны дзень з экрана ТВ/ настойліва напамінае нам, што шалёны рух працягваецца ўжо пад другім, бела-сіне-чырвоным штандарам. Апошнім часам, праўда, з выразным чырвоным водбліскам.



**Счапленне малаткоў**
**З сярпамі. Ноч. Мароз...**
**Краіна Мацюкоў**
**Дарыла нам свой Лёс...**

Малаткі і сярпы яшчэ не зусім зніклі з яе сімвалаў, а Ноч і Мароз так і не змяніліся доўгачаканым Світанкам і Вясной. Існуюць, відаць, нейкія касмалагічныя сілы, якія не даюць ёй спыніцца, перавесці дух... Яны і сёння разганяюць яе да некіруемай хуткасці. І мы, беларусы, трывала і адчайна ўчапіліся ў непрадказальнага суседа і раз-пораз з цікаўнасцю выглядаем з-пад яго крыса на боскі свет.

Чужы Лёс міжволі стаў нашым. Не выключана зусім, што «сляпая калясніца», калі не з'явіцца цвярозы кіроўца, разаб'ецца дашчэнту, заваліўшы сваімі ашчэпкамі і нас. Дык ці не паспрабаваць саскочыць? Рызыкоўна, вядома: хрыбет зламаць можна. Але па ўсім відаць, што рыхтавацца да такога варыянту трэба было даўно... Бог — сведка, нас могуць і скінуць на поўным ходзе, не надта клапоцячыся пра наш хрыбет. «Москва слезам не верит!»

Ды і зразумела даўно ўжо, што прагматычны Захад не гарыць жаданнем падставіць сваё плячо. Спадзявацца можна толькі на саміх сябе, як гэта ні банальна гучыць. Мы ж працавітыя і цярплівыя!.

## IV

Ці трэба гаварыць пра звышадказнасць, якая кладзецца на плечы сапраўдных лідэраў нацыі, яе эліты. Нешматлікай і расколатай, не надта моцнай духам /за рэдкім выключэннем/. Нас даўно пераконваюць, што наш народ не здольны ўвогуле вылучыць моцнага, агульнапаважанага лідэра, а наша светаўспрыманне вымагае абавязковага пастыра.

Не сакрэт, што нацыя як самаабноўлены, самакіруемы арганізм, яшчэ не сфарміравалася ў нас. А значыць, мы толькі пачынаем сваё нацыянальнае станаўленне. І як жа патрэбен сёння беларусам лідэр! Лідэр, які здольны акумуляваць, увабраць у сябе ўсе танчэйшыя таны і паўтаны складанейшай палітры сённяшняй рэальнасці.

Ён, безумоўна, павінен несці ў сабе чыстае і моцнае энергетычнае поле, яснае і нават вонкава прывабліваe, якое давала б нам Веру. І стварацЬ гэтае поле павінна нам усім, па кропельцы ўкладваючы ў агульную справу свае інтэлектуальныя і матэрыяльныя здабыткі, чысціню помыслаў, іх высокі духоўны кшталт і, канешне, моц духу. І тады сукупны Банк народнай душы збярэ гэтую энергію ў адно цэлае, накопіць, нарэшце, сілу, здольную стварыць крытычную масу для рашучых высілкаў на складаным і пакутлівым шляху Беларусі. Мы ўсе — часцінка нашага Беларускага Сусвету, ён як мазаіка складаецца з нас усіх. Гэта і ёсць наш адметны твар, аднавіць які — справа нашага гонару. Што тычыцца лідэраў, то яны ёсць на нашай зямлі, хай і не зусім ідэальныя, але затое жывыя і натуральныя. Каб толькі ў сваёй Айчыне зразумелі сваіх прарокаў!..

## V

Мы вяртаемся. З доўгай ссылкі ў бяспамяцтва. Вяртаемся, трэба спадзявацца, назаўсёды. Мы разгубленыя і напалоханыя. Новае святло нязвыклае для нас. Мы не ўпэўнены ні ў адным са сваіх крокаў. І кожны з іх даецца вельмі цяжка.

• Мы вяртаемся з расколінай у сэрцы, хістаючыся, амаль ужо не верачы. Злавесны цень таталітарнага монстра ізноў над намі. І ўсё агрэсіўней шматлікія «чыкіны» прапіхваюць ідэю «зрабіць усё, як было».

Расколіна пагражае ператварыцца ў бездань. Генетычна напрацаванае цярпенне і цярплівасць да болю, да цяжкіх выпрабаванняў нам яшчэ, відавочна, спатрэбіцца. Не трэба палохацца няўхільнага ходу гісторыі, вялікага Грукату на віражах яе адмысловых скрыжаляў. Даўно ж вядома, што гэты няўмольны поступ нікому «не спыніць, не стрымаць»...

І таму — Надзея і Найвышэйшы — з намі!

Алесь Гібок-Гібкоўскі

Сярод кніг

# СТАНІСЛАЎ ЛЕМ СТАЎ... БЕЛАРУСАМ

Аматары фантастыкі /з тых, безумоўна, хто не забываецца, што ён беларус/, нарэшце, атрымалі мажлівасць прачытаць на сваёй роднай мове лепшыя апавяданні вядомага польскага пісьменніка, аднаго з правафланговых гэтага жанру ў сусветнай літаратуры Станіслава Лема. Падрыхтавала ім падарунак выдавецтва «Мастацкая літаратура», а каб аўтар «Салярыса» загаварыў па-беларуску, парупіўся Максім Валошка, які дагэтуль перакладаў ужо нямала як з польскай, так і з рускай моў. Кніжка ж называецца «Прыгоды Піркса».

Творам папярэднічае прадмова Станіслава Саладоўнікава «Феномен Станіслава Лема», у якой падрабязна прасочваецца творчы шлях пісьменніка. Цалкам запыняцца на ёй, думаецца, няма патрэбы, а вось на асноўныя моманты біяграфіі С.Лема ўсё ж, бадай, варта звярнуць увагу. Не столькі дзеля таго, каб спатоліць звычайную цікавасць таго, хто з кнігай яшчэ не пазнаёміўся, а і каб у пэўнай ступені зразумець, чым кіраваўся М.Валошка абгрунтоўваючы для аб'екта пераўвасаблення па-беларуску менавіта гэтыя, а не іншыя творы.

Станіслаў Лем стаў фантастам, напісаўшы свой першы навукова-фантастычны раман «Астранаўты» /дарэчы, у трыццацігадовым узросце/, калі па сутнасці ўжо меў імя ў літаратуры. Зрабіў ён гэта пасля таго, як пачуў меркаванне, што ў палякаў няма... сваёй навуковай фантастыкі. І даказаў, што яна павінна быць і будзе. І вось ужо больш сарака гадоў плённа выступае ў любімым жанры.

Калі да С.Лема аўтары, якія браліся за гэты жанр, асноўную ўвагу ў сваіх прагнозах будучыні засяроджвалі на аспектах сацыяльных /з той розніцай, што савецкія пісьменнікі ў пераважнай большасці, у адрозненне ад замежных калег па пяру, заставаліся аптымістамі/, дык С.Лем на першы план ставіць маральныя праблемы. Наколькі чалавек заўтрашняга дня будзе ў ладах з далейшым навукова-тэхнічным прагрэсам, як адаб'юцца найноўшыя адкрыцці на яго псіхіцы, паводзінах?.. Пытанні, вядома, няпростыя, але ж іх не адкінеш, калі хочаш кідаць позірк праз дзесяцігоддзі, а то і стагоддзі наперад.

С.Лем па адукацыі ўрач і яму блізкае многае з таго, пра што піша. Хоць бы ўзяць стварэнне штучнага інтэлекту, адаптацыі чалавека ў надзвычайных умовах... У той жа час С.Лем пісьменнік, які валодае зайздроснай фантазіяй, што і дазваляе праграмаваць сітуацыі самыя нечаканыя і невераготныя. Як, напрыклад, у тым жа цыкле пра пілота Піркса.

Між іншым, над гэтым цыклам С.Лем працуе даўно. І калі б пад творамі былі пазначаны даты іх напісання, чытач даведаўся б, што першае апавяданне «Выпрабаванне», якім кніга адкрываецца, з'явілася яшчэ ў 1958 годзе. І ўжо ў ім адчуваецца прадбачлівасць аўтара. Ён, скажам, першы расказаў пра прыстасаванні, што вядомы сёння ва ўсім свеце як трэнажоры, якія выкарыстоўваюць пры падрыхтоўцы касманаўтаў, лётчыкаў, прадстаўнікоў іншых найсучаснейшых прафесій.

Аднак прадказанні тэхнічныя сустрэнеш і ў іншых пісьменнікаў-фантастаў. С.Лем жа пайшоў далей. Пачынаючы з «Выпрабавання» ў яго свой далейшы працяг набыла ідэя імітацыі рэальнасці. Інакш кажучы, прагназіруючы такія сітуацыя, калі з дапамогай тэхнікі ствараецца нешта падобнае на сапраўднае жыццё. А тое, што можа атрымацца ў падобных выпадках, і «пракручваецца» ў творах цыкла. Скажам, у «Альбатросе», «Патрулі», «Умоўным рэфлексе»...

А вось у апавяданні «Тэрмінус» — герой аднайменны робат. Спачатку ён нічым асаблівым не вызначаецца з шэрагу іншых сваіх «братоў». Аднак адбываецца аварыя, экіпаж касмічнага карабля гіне. І ў гэты момант, адчуваючы страшную непазбежнасць таго, што адбываецца, Тэрмінус, як адзіны сведка трагедыі, пачынае занатоўваць у сваёй электроннай памяці апошнія перамовы людзей.

Фантазія С.Лема на гэтым не спыняецца. Аказваецца, запісы гэтыя затым атрымліваюць магчымасць уступаць у размову з чалавекам, які пачынае праслухоўваць іх. Ідавочцам гэтага і становіцца згаданы Піркс.

«Дазнанне», «Здарэнне», «Паляванне», «Расказ Піркса» — таксама апавяданні, у якіх і надзвычайныя сітуацыі, і смелы палёт аўтарскай фантазіі, і, як заўсёды ў С.Лема, глыбокі псіхалагізм у абмалёўцы паводзін персанажаў.

Як бачна, невыпадкова для перакладу ўзяты менавіта гэтыя, а не іншыя творы С.Лема. Яны — свайго роду ўваходзіны ў свет вялікага польскага фантаста. Працягам жа знаёмства беларускага чытача з ім стане раман «Салярыс», які павінен выйсці ў «Мастацкай літаратуры» — таксама ў перакладзе М.Валошкі — у наступным годзе.

Наконт самога перакладу... Вартасці ці недахопы яго можна, вядома, ацаніць, параўноўваючы пераўвасабленне з арыгіналам. Але ёсць, бадай, і яшчэ адзін, досыць апрабаваны крытэрый: наколькі натуральна гучыць пераклад па-беларуску. Перагарніце старонкі «Прыгод Піркса» і вы заўважыце, што — бездакорна натуральна.

І яшчэ... На гэтым засяродзіў увагу ў прадмове С.Саладоўнікаў. С.Лем «узбагаціў польскую мову сотнямі неалагізмаў, даўшы ўдзячную работу лінгвістам, мовазнаўцам, літаратуразнаўцам розных краін, але перш за ўсё, вядома, польскім. У гэтых адносінах пераклад твораў Лема на беларускую мову будзе садзейнічаць развіццю яе лексічнага складу».

**А.АН-ЕВІЧ**

Часопісы ў чэрвені

# ПРАЦЯГ АЧЫШЧЭННЯ

Бадай, словы гэтыя найлепей стасуюцца да цяперашняга стану нашага грамадства. Яны ж у пэўнай ступені вызначаюць і змест чарговых нумароў літаратурна-мастацкіх часопісаў. Працягваецца пераасэнсаванне маральных каштоўнасцей, адбываецца пошук новых ідэалаў, развітанне з тым старым, чаго ўжо душа не прымае. І ўсё часцей і больш мэтанакіравана позірк сягае ў сівую мінуўшчыну, якая, як пачынае высвятляцца, не толькі слаба знаная і спазнаная. Яна ж — і тыя ўрокі, забыццё якіх недаравальна, бо бяспамяцтва і пачынаецца менавіта з забыцця, а там, дзе бяспамяцтва, бурныя парасткі дае бур'ян нігілізму, самаедства.

Адзін з падобных урокаў у вершы С. Панізніка «Надгробак Сапегі ў Вільні». Уся палымянская падборка гэтага, несумненна таленавітага, аўтара чытаецца неабыякава, ды згаданы твор найбольш адпавядае стану, што характэрны цяпер для пераважнай большасці з нас:

**На надгробку Сапегі**
**адбіты абцас.**
**Мёртвы час.**
**Усміхаецца люд паспаліты:**
**«Леў Сапега —**
**увесь, што тут ёсць, не для вас,**
**бе-ла-ру-сы: у вас ён забыты!**
**І за ўсё, што змаглі**
**напісаць на скрыжалі, —**
**вам — асколак абцаса**
**для славы зямлі,**
**дзе займаліся тым,**
**што рабоў нараджалі».**

Напісана па душэўнай патрэбе, а не як даніна чарговай модзе. Чаго, а гэтага, на жаль, у нас таксама па-ранейшаму хапае. Не пра звычайнае флюгерства гаворка /яно, як кажуць, навідавоку, заўважыць яго лёгка/, а пра тое, калі чарговыя ідэі ўводзяцца ў абсалют і адразу ж з'яўляюцца новыя сцяганосцы, а яны... Яны ні на хвіліну не сумняваюцца ў сваёй праваце і перакананы, што ўсе абавязкова павінны следаваць іхняму прыкладу.

«Некаторыя апосталы перабудовы, самі пра нешта модна галёкаючы, ахвотна ківаюць на тых, што маўчаць, па-іхняму, — злачынна. Бяжыць такі і азіраецца са страху: ці бягуць за ім другія?» Гэта ўжо — з новых лірычных запісаў Я. Брыля, таксама ў «Полымі». «Вячэрняе» называюцца яны. Роздум чалавека, які нямала пражыў. Згадкі аб гэтым пералжытым і адначасова, як відаць з вышэйпрыведзенага запісу, тое «сиеминутное», што пазначана пільным мастакоўскім поглядам на рэчаіснасць.

Ведаю, ёсць і тыя, хто падобнае абнародаванне настойліва не прымае: маўляў, усяму свой час, навошта спешка, наступнікі самі разбяруцца з такімі запісамі. А мо і трэба спяшацца, каб тое, што ў душы, прыйшло своечасова да чытача?

Ці не адказ на гэтае пытанне такі запіс: «У вас тут проза ці ўспаміны?» Такое пытанне паэтычнай рэдактаркі і здзівіла мяне, і здалося крыўдным. Бо цану ўспамінам, як прозе /выдзелена Янкам Брылём. — М. А./, я чым далей, то больш упэўнена спасцігаю. Тая проза, якое ў нас, на жаль, на сум ды раздражненне гэтак мала — побач з вялай ды прыблізнай белетрыстыкай, што не можа ўдосталь нагаварыцца».

Вось і І. Шамякін усё часцей звяртаецца да дзённікавых запісаў. Раней яны далі назву адной з яго кніг «Карэнні і галіны», цяпер у «Полымі» — «Дзе сцежкі тыя...» /змешчаны пачатак/. Ёсць у іх і ўспаміны, але найбольш у храналагічнай паслядоўнасці прасочваюцца падзеі — і вялікія і малыя, пачынаючы з 11 лістапада 1981 года.

# «МУДРЭЦ З ВАВІЛОНУ» І ЯГО ГЕРОІ

## ШТРЫХІ ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА САКРАТА ЯНОВІЧА

Марудна, спакваля вяртаецца да нас з-за межаў Беларусі нашая ж літаратура. Нават і не вяртаецца, а з'яўляецца як навіна, як адкрыццё цікавых старонак свае культуры, якія старанна адгароджвала ад нас злавесная заслона таталітарызму. Не выключэнне тут і беларускія пісьменнікі з Польшчы, у прыватнасці, такая самабытная постаць, як Сакрат Яновіч. Сёе-тое з ягоных твораў выходзіла і ў БССР: апавяданні ў калектыўным зборніку «Літаратурная Беласточчына» /1973/, кніга прозы «Сярэбраны яздок» /1978/. Але ці шмат гэта для літаратара, які ўжо каля сарака гадоў працуе над словам? Пра адносіны да С. Яновіча як пісьменніка «не той» арыентацыі сведчыць і пазбаўленне яго ўласнай персаналіі ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі». І вось нарэшце — ладны том прозы «Самасей», што выйшаў летась у «Мастацкай літаратуры».

Звяртае на сябе ўвагу тое, што С. Яновіч тут не падчышчаны рэдагаваннем, не падагнаны пад стандарт, а пакінуты такім, які ёсць — са сваімі шматлікімі лексічнымі наватворамі, са сваім ладам фразы, досыць нязвыклым для нашага чытача. Нязвыклая ўвогуле яго манера пісьма, што трымаецца на парадоксах, рацыянальна-дыдактычных выслоўях, падтэксце, схільнасці да філасофствавання, якое раптам можа перабіцца шчымліва-сардэчнаю нотаю аўтарскай рэфлексіі ці злоснаю іроніяй публіцыстычнага выказвання. Ён не толькі не пазбягае стылёвых перападаў, а, наадварот, дэманструе іх як неабходнасць, як праяву ўласнага светаадчування. Мазаічная, імпульсіўна-рваная, сінтэтычная паводле жанру проза С. Яновіча адбівае ў сабе драматызм сучаснасці, які бачыцца пісьменнікам найперш у распадзе народных маральных асноў жыцця. Праз усю яго творчасць праходзіць матыў шкадавання прыгожага, якое існуе ў традыцыйных этычных, педагагічных, філасофскіх законах існавання беларуса. Разбурэнне гэтых спрадвечных апор чалавечнасці выклікае выразную аўтарскую змацыянальную рэакцыю.

Улюбёная форма выказвання С. Яновіча — паэтычная мініяцюра, што засведчыў ужо першы яго зборнік «Загоны». Увогуле мініяцюрамі беларускага чытача сёння не здзівіш. Яновічавы ж адметныя часцей кур'ёзнасцю мастацкай сітуацыі. Аўтар заўважае жыццё так ці інакш «перакуленае» ці гатовае перакуліцца, тое, інакш кажучы, што знаходзіцца на грані абсурду /найбольш удалае ў гэтых адносінах апавяданне «Як я стаў беларусам»/. Яно сумна-смешнае і шматзначна-павучальнае сваім глыбокім падтэкстам. Такім чынам, адкрытая паэтычнасць, эсэістычнасць твораў С. Яновіча мяжуе з эпічнай аб'ёмнасцю, філасафічнасцю мыслення мастака. «Мудрэц з Вавілону», — так названа была ў польскім друку адна з рэцэнзій на раннюю кнігу пісьменніка.

Новы том прозы па сутнасці выбранае: сюды ўвайшлі аповесць «Самасей» і апавяданні розных гадоў. Маленькія апавяданні С. Яновіча — адбіткі жыцця Беласточчыны, якое паказваецца на раздарожжы паміж вёскаю і горадам. Герой твораў нясе ў сабе найчасцей нейкі маральна-псіхалагічны комплекс гараджаніна-вяскоўца. Гэта нядаўні селянін, а зараз дробны службовец, які стараецца ўсяляк самасцвердзіцца ў сваёй прыналежнасці да сучаснай цывілізацыі і урбаністычных каштоўнасцяў жыцця. Ды яго самасцвярджэнне набывае грубыя прагматычныя формы, дасягаецца адступленнямі ад элементарнай маральнай прыстойнасці, і перад намі паўстае звычайны мешчанін, які самаздаволена дэманструе ўзоры свайго побыту /«На ёлцы ў вясковага інтэлігента», «Выпадковая размова»/. Ён фіксуецца аўтарам і ў нейкую крытычную часіну сваёй абывацельскай бездухоўнасці /«Раман Стэфкі», «Дзюбаграй»/. Нярэдка скупымі штрыхамі даецца закончаны малю-

# ПРА ЗАЙКУ, ШТО БЕГАЎ ПА РАСЕ...

Ці не два дзесяткі кніжак для маленькіх напісаў Станіслаў Шушкевіч. Гады бралі сваё, ды не развітваўся ён з пяром. І калі ўжо здароўе пачало падводзіць, сабраў новыя вершы, прапанаваў у выдавецтве «Юнацтва». Рукапіс быў ухвалены, уключаны ў перспектыўны план, але кніжкі аўтар не паспеў пабачыць, яна толькі нядаўна прыйшла да хлопчыкаў і дзяўчынак.

«Непаседлівыя вавёркі» — так называецца гэты зборнічак, з густам аформлены мастаком Г.Сянькоўскім. Кніжка невялічкая, усяго дваццаць вершаў. Ды нездарма кажуць: малы залатнік, а дарагі. З досціпам, з усмешкай пісаў дзядуля Стах. І, безумоўна, з любоўю да дзетак.. Здавалася б, нічога надзвычайнага ў яго вершах няма. Тыя ж звяры і птушкі, якіх сустрэнеш шмат у якіх творах маладых і старэйшых аўтараў. Гэткія ж — у меру сур'ёзныя, з жаданнем ва ўсім быць падобнымі на дарослых і адначасова надзіва даверлівыя — хлопчыкі і дзяўчынкі. Аднак жа свет, створаны фантазіяй Станіслава Пятровіча, па-свойму непаўторны.

Вершы паэтам быццам не напісаны, а прамоўлены маломy субяседніку, які не толькі ўважліва слухае, але гатовы і пытанне задаць, ды не адно. Напачатку ж — выклік на давер, на ўзаемаразуменне. Як, напрыклад, у вершы «Наш дзіцячы сад», ці не лепшым у кніжцы:

**Накацілася з-за мора**
**Хмара цёмная учора.**
**Лінуў дождж, сыпнуў град,**
**Затрымцеў ад ветру сад.**
**Гром нагамі тупаў страшна.**
**Ну, а сёння светла, ясна.**
**Загулі на кветках пчолы,**
**Бо настрой у іх вясёлы.**
**Над рачулкай ля вадзіцы**
**Кружаць ластаўкі, сініцы.**

Вядома ж, малы слухач абавязкова перапытае, як гром нагамі тупаў і як сад затрымцеў, захоча ўведаць болей пра тых жа птушак — ластавак, сініц, папросіць прачытаць і іншыя творы. Скажам, пра ляльку, што спіць на падаконніку /«Лялька спіць на падаконніку»/, ці пра тое, як «у лясным зялёным клубе біў барсук заўзята ў бубен» /«Лясная вечарынка»/, ці, урэшце, пра тое, як «з ціхай раніцы да ночкі, кожным днём вясны і лета звоняць кветачкі-званочкі — званары між яркіх кветак» /«Кветачкі-званочкі»/.

А верш «Вымак зайчык у расе»? Гэта тая прастата /не спрошчанасць/, якой так часта не хапае нашай дзіцячай паэзіі, што становіцца занадта вобразна-ўскладнёнай, пазбаўляецца непасрэднасці, натуральнасці. У С.Шушкевіча ж якраз — чуйнае адчуванне дзіцячага свету:

**Бегаў зайчык па расе,**
**А цяпер на пень прысеў.**
**Галасочкам тоненькім**
**Просіць зайчык сонейка:**
**— Падыміся ўверх вышэй,**
**Бо азяб я да вушэй,**
**Адубелі мае лапкі,**
**Мокрыя, нібыта ў жабкі.**

Літаральна кожны твор кніжкі пазначаны пячаткай майстра паэзіі для дзяцей.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# КАБ ЗАХАВАЦЬ ЧАЛАВЕЧУЮ ГОДНАСЦЬ

## ГУТАРКА З ЯНАМ МАКСІМЮКОМ, БЕЛАРУСКІМ ЛІТАРАТАРАМ З БЕЛАСТОКА

**«Ёсць кнігі, якія з'явіліся на свет як збор досведу чалавечай грамады, як плён шматвяковае традыцыі, кнігі, што ахапляюць у сабе ўвесь сусвет і прастору, адкрытыя чалавеку ў пэўным пункце яго існавання. У нашым стагоддзі гэткаю Кнігай стаўся раман Джойса «Уліс» /1922/. Існаванне ў пэўнай літаратуры перакладаў гэткіх Кніг-Сусветаў сведчыць пра сталасць гэтае літаратуры дый культуры народа ўвогуле, пра ступень далучанасці культуры да цывілізацыі... Джойс — адзін з найцяжэйшых для перакладу пісьменнікаў. Пераклад «Уліса»... уяўляецца настолькі складаным, што патрабаваў бы ад перакладчыка дасканалага валодання англійскай і роднай мовамі,.. энцыклапедычных ведаў, неверагоднай настойлівасці і ўседлівасці, процьмы часу і фізічнай сілы — карацей кажучы, ахвярнага подзвігу...», — гэтак пісаў перакладчык і рэдактар Сяргей Шупа ў прадмове да ўрыўка перакладу «Уліса» на беларускую мову, што ажыццявіў беластоцкі літаратар Ян Максімюк /публікацыя ў зборніку «Далягляды», 1990/. Там жа паведамлялася пра намер цалкам выдаць пераклад у 1992 годзе.**

**Таго, аднак, не здарылася. Пра прычыны затрымкі, а таксама пра творчасць перакладчыка, яго эстэтычныя густы, — гутарка з Янам МАКСІМЮКОМ, якую зрабіў мінскі эсэіст і журналіст Уладзіслаў АХРОМЕНКА. Апроч таго, перакладчык спрэзентаваў спецыяльна для публікацыі ў «ЛіМе» адзін з фрагментаў свайго перакладу «Уліса».**



— ***Ну давай ад самага пачатку: дзе нарадзіўся, дзе вучыўся, чаму і як пачаў займацца літаратурным перакладам...***

— Нарадзіўся я ў вёсцы Ляхі на Беласточчыне, у сям'і гаспадароў. Дома ў нас размаўлялі, ды й цяпер размаўляюць па-беларуску. Скончыў я падставовую школу, потым ліцэй у Гайнаўцы, але не так званы беларускі, а польскі. Можа, гэта й добра — бо на той час у нашым ліцэі беларушчыны было значна больш, чым у суседнім. У 1977 годзе паступіў на фізічны факультэт Варшаўскага універсітэта, дыплом якога і атрымаў праз шэсць гадоў, абараніўшыся па методыцы нейтронных доследаў аморфных металаў. Шчыра кажучы, яшчэ з першага курса я ведаў, што навукоўца з мяне не атрымаецца — не ляжала ў мяне душа да дакладных навукаў, але неяк у сілу інерцыі пратрымаўся да апошняга. У прынцыпе, выбар фізікі быў у пэўнай ступені кампрамісам — мае бацькі хацелі бачыць мяне чалавекам з прэстыжнай вышэйшай адукацыяй і салідн ай прафесіяй. Але я не шкадую, што скончыў курс фізікі — па-першае, універсітэт ёсць універсітэт, а па-другое — склад мыслення, які надаюць заняткі гэтай дысцыплінай, прынамсі, не самы горшы, бо заахвочвае да аналітыкі. Я добра зразумеў гэта, калі пачаў пераклад «Уліса» — кніжка гэтая збудаваная з матэматычнай дакладнасцю.

Што тычыцца мастацкіх перакладаў, дык займацца імі я пачаў крыху выпадкова: на апошнім курсе мне трэба было тэрмінова напісаць дыпломную працу, бо калі б я «заваліў» дзяржаўныя іспыты, то апынуўся б у Войску Польскім, чаго мне вельмі не хацелася /але што, як і мае быць, надарылася/. Дык вось, каб пераключыцца на што-небудзь іншае, пачаў я чытаць у арыгінале Джойса. Раней чытаў гэтую кніжку ў перакладзе на польскую мову, але пераклад той, пэўна, быў не з лепшых, і тады Джойс мяне не ўразіў. Натуральна, з'явілася думка — паспрабаваць перакласці на беларускую мову.

Потым было Войска Польскае — час, які я лічу цалкам змарнаваным у сваім жыцці. Вярнуўся з войска і пайшоў настаўнічаць у падставовую школу, дзе і прарабіў тры гады. Падчас настаўніцтва я паставіўся да перакладу больш сур'ёзна: вырашыў перакласці «Уліса» цалкам.

— ***Ці меў ты за ўзор што-небудзь з беларускай літаратуры?***

— Яшчэ за школай, недзе напрыканцы шасцідзесятых, патрапіўся мне на вочы нейкі старадаўні нумар часопіса «Маладосць». Паспрабаваў пачытаць — памятаю толькі, што было там нешта пра меліярацыю Палесся. Шчыра кажучы, для мяне амаль што ўся тагачасная беларуская савецкая літаратура была нечым дзікім, успрымалася яна літаральна як нешта неверагоднае з жыцця іншапланетнікаў. Прынамсі, я не бачыў у ёй жывых асоб. Надуманыя сюжэты з калгаснага ды заводскага жыцця, хадульныя персанажы, дубовыя дыялогі... Ды й увогуле, «БССР» таксама ўспрымалася мною як нейкая іншая планета: ведаў, што пачынаецца яна за ўсходняй мяжою, а вось у тое, што яе насяляюць нейкія жывыя людзі, не верылася.

— ***А ўвогуле — каго ты мог бы назваць сваімі літаратурнымі арыенцірамі, і ці існуюць яны?***

— Натуральна, так. Разумееш, беластоцкі моўны асяродак досыць спецыфічны. Бывае, трапляецца якая-небудзь дзікая кніга, але напісаная па-беларуску — і чытаеш яе запоем, не ўнікаючы ў змест /хай там апавядаецца хоць пра службовую сабакагадоўлю, хоць пра вежавыя краны/. Проста хочацца ўнікнуць у логіку, структуру самой мовы, на якой тая кніжка напісана. Але сёння, згадваючы ўсё тое, што я прачытаў, магу сказаць хіба што пра мову /бо не збіраюся падаваць гатовых рэцэптаў нейкіх літаратурных канцэпцыяў/. Дык вось, па мове мой арыенцір перш за ўсё — Максім Гарэцкі. Сапраўдная беларуская проза, напісаная натуральнай, а не штучнай мовай. Гэта якраз тое, чаго бракуе шмат якім беларускім празаікам пасляваеннага часу. Але зноў мушу паўтарыцца — то на маю прыватную думку.

— ***А Быкаў, Караткевіч, Пташнікаў, Адамчык...***

— Што тычыцца Быкава, я лічу яго першакласным беларускім пісьменнікам, але мушу ўсё ж дадаць — савецкім беларускім пісьменнікам. Караткевіч, то як на маю думку — можа, гэта прагучыць як блюзнерства, — літаратар недзе другога раду. І мова не без заганаў, і канструкцыя шмат якіх кніжак неадбудаваная. Мне падаецца, што папулярнасць яму надаў перш за ўсё грамадскі і часавы кантэкст, у якім ён пісаў. Вельмі падабаюцца некаторыя творы Стральцова і Пташнікава. Добра, што прыпомніў Адамчыка: памятаю, быў літаральна агламазджаны мовай Адамчыка, калі з'явілася яго кніжка «Чужая бацькаўшчына». Як для мяне, гэта было адкрыццё ў «бэсэсэраўскай» літаратуры такога файнага дзядзькі, які піша натуральнай, прыгожай мовай, непадобнай да афіцыйна прынятай у тагачаснай літаратуры. Ды й напісаны яго раманы вельмі цікава.

Безумоўна, нельга лічыць, што ўсё, створанае за савецкім часам, кепскае: часавае вызначэнне не ёсць вызначэнне мастацкіх вартасцяў.

— ***Моўная і культурніцкая сітуацыя беларусаў Беласточчыны надта складаная. Ёсць Беларускае грамадска-культурнае таварыства, ёсць літаратурная суполка «Белавежа», Беларускае аб'яднанне студэнтаў... Як ты можаш ахарактарызаваць сітуацыю беларускага літаратара Усходняй Польшчы?***

— На маю думку, існуе пэўная аналогія паміж беларускай літаратурай у Рэспубліцы Беларусь і беларускай літаратурай у Рэспубліцы Польшча — розняцца хіба што маштабы ды асобныя акалічнасці. І ў нас, і ў вас беларуская літаратура — перш за ўсё літаратура меншасці, калі браць на ўвагу чытацкую публіку. У адрозненне ад польскай ці, скажам, расейскай літаратуры, тутэйшая культурная прастора вельмі абмежаваная. Баюся, што неўзабаве чытацкае кола стане меншым за пісьменніцкае. Так што мізэрныя наклады /400—500 паасобнікаў/, якімі «белавежцы» выдаюць свае кніжкі, у прынцыпе, адпаведныя.

— ***Дадатак да «Маладосці», скажам, мае прыблізна тыя ж наклады...***

— Але ж беларуская літаратура ў Рэспубліцы Беларусь мае больш спрыяльныя ўмовы. Для нармальнага, як пішуць літаратуразнаўцы, літаратурнага працэсу неабходны тры ўмовы: самі літаратары, літаратурныя крытыкі і, натуральна, чытач. З літаратарамі пакуль усё, як мае быць: пішуць. З другім бяда — няма на Беласточчыне сапраўдных літаратурных крытыкаў. Ну, а чытачоў, як я ўжо сказаў, усё меншае. У вас жа становішча значна лепшае — і аўтараў, і іх крытыкаў не бракуе, ды й чытачоў, калі і замала, дык у кожным разе больш.

— ***У сучаснай беларускай літаратуры існуе своеасаблівы водападзел, які пралягае, на маю***

# «ПРАТЭЙ»

## СТАРОНКІ З ТРЭЦЯГА РАЗДЗЕЛА «УЛІСА»

/.../

Ён наблізіўся да мора, і мокры пясок абляпіў ягоныя боты. Свежае паветра павіталася з ім, зайграўшы на арфе раздражнёных нерваў: раздражнёны вецер, што рассыпае зерне яснасці. Чакай, ці я не намерыўся йсці ажно да маяка Кіш? Ён раптоўна спыніўся, ногі пачалі вязнуць у размяклым грунце. Давай назад.

Завярнуўшыся, ён агледзеў бераг на поўдні: ногі зноўку пачалі вязнуць у свежых ямачках. Вунь там чакае вежа з халодным скляпеністым пакоем. Праз адтуліны байніцаў безупынна прабіваюцца пікі святла, паволі й безупынна, як увязаюць мае ногі ў пясок, і паўзуць у поцемкі па сонечным цыферблаце падлогі. Сіняе сутонне, змярканне, фіялетавая ноч. У скляпеністай цемрадзі яны чакаюць, іхнія паадсоўваныя крэслы ды мая валіза-абеліск, вакол стала з пакінутымі талеркамі. Каму іх прыбіраць? Ключ у яго. Калі надыдзе гэтая ноч, я тамака спаць не буду. Маўклівая вежа з замкнутымі дзвярыма хавае іхнія сляпыя целы: сахіба — лоўцу чорных пантэраў і ягонага пойнтэра. Кліч без адказу. Ён выцягнуў засмактаныя падэшвы й рушыў усцяж насыпу з валуноў назад. Бярэце ўсё, трымайце ўсё. Са мной ідзе мая душа, форма формаў. Калі вартуе месяц час начны, я йду сцяжынай па-над скаламі, у цемрыве срабрыстым, Эльсінора чуючы спакуслівы прыліў.

Прыліў ідзе следам за мною. Адсюль відаць, як наплывае. Дык вяртайся дарогай на Пульбэг, на тамашні пляж. Ён узабраўся наверх, па асацэ й аслізлых водарасцях, і прысеў на скалістай табурэтцы, утыркнуўшы свой кіёк у шчыліну.

Разадзьмутае сабачае падла валялася на подсцілцы з ціны. Перад ім затоплены пяском лодачны планшыр. Un coche ensable[1], так Люі Веё назваў прозу Гацье. Гэтыя вязкія выдмы — мова, нанесеная ветрам і прылівам. А вунь — крушні мёртвых будаўнікоў, прыволле хітрых пацукоў. Там схавай золата. Спрабуй. Маеш жа трохі. Пяскі й камяні. Абцяжараныя мінуўшчынай. Цацкі Вернігары. Зважай, каб які не гвазданўў табе пад вуха. Я волат крыважэрны, валуны качаю, па костачках ступаю. Пых-чмых-хмых. Нюхам юху юрляндца чую.

Кропка, павялічваючыся ў вачох, імчалася да яго паўз пясчаную выспу: жывы сабака. Божа, ці ён хоча кінуцца на мяне? Ушануй ягоную свабоду. Ты нікому ні пан, ні нявольнік. У цябе кій. Сядзі спакойна. Здалёк, наўскосць, выходзілі з прыліву на бераг постаці, дзве. Дзве марыі. Надзейна схавалі яго ў чаротніку. Аку-ку. Бачу цябе. Не, сабаку. Бяжыць назад да іх. Хто?

Лоддзі лёхланаў падыходзілі сюды да берага ў пошуках здабычы, крыважэрныя іхнія дзюбы сунулі нізка над расплаўленым волавам прыбою. Дацкія вікінгі, тасмы тапароў блішчэлі ў іх на грудзях, як залаты каўнер вакол шыі Малахіі. Статак кашалотаў прыбіўся да берага гарачым поўднем, пырскаецца фантанчыкамі, боўтаецца на плыткаводдзі. І тут, з галоднага места за вастраколам, вылятае арда карлікаў у куртатых каптанах, мае прашчуры з разніцкімі нажамі, бягуць, карабкаюцца, сякуць зялёнае варволістае мяса кітоў. Голад, мор і разня. Іхняя кроў цячэ ў маіх жылах, бруіцца ўва мне іхні юр. Я хадзіў сярод іх па замёрзлай Ліфі, тамашні я, адменец, а наўкола пырскалі жывіцай шыплівыя вогнішчы. Я не азваўся да нікога — і да мяне ніхто.

Сабачы брэх прыбліжаўся да яго, змаўкаў, адбягаўся назад. Сабака майго ворага. А я толькі стаяў, збялелы, маўклівы, нацкаваны. Terribilia meditans[2]. Нейкі цытрынавы камзол, служка фартуны, заўсміхаўся над маім перапудам. Ці гэтага прагнеш, брэху іхніх вcase воплескаў? Самазванцы: пражыць іхнія жыцці. Брат Бруса, Томас Фіцджэральд, рыцар шаўковісты, Пэркін Уорбэк, фальшывы наследнік Йорку ў бела-ружовых портках з шоўку, дзіва аднаднёвае, і Лембэрт Сімнэл са світай паслугачоў і крамароў, пасуднік каранаваны. Усе — нашчадкі каралёў. Рай самазванцаў, і тады, і цяпер. Ён ратаваў тапельнікаў, а ты дрыжыш ад дварняковага цяўкання. Але прыдворныя, што пацьвельвалі з Гвіда ў Ор-сан-Мікэле, былі ў сваім доме. У доме... Не трэба нам тваё сярэднявечнае мудрагельства. Зрабіў бы ты як ён? Побач была б лодка, ратавальны буй. Naturlich[3], спецыяльна для цябе. Зрабіў бы ці не? Чалавек, які ўтапіўся дзевяць дзён таму каля скалы Мэйдэн. Цяпер чакаюць яго, аж выплыве. Скажы праўду, не круці. Хацеў бы. Паспрабаваў бы. Кепска плаваю. Вада халодная, мяккая. Калі я сунуў галаву ў місу з вадой, у Клонгаўзе. Нічога не бачу! Хто там за мною? Хутчэй вымай, хутчэй! Бачыш, як хутка з усіх бакоў насоўваецца прыліў, як хутка засцілае пясчаную нізіну пад колер какававага шалупіння? Калі б пад нагамі была зямля. А ўсё-ткі хацелася б, каб ягонае жыццё было ягоным, а маё было маім. Тапельнік. Ягоныя людскія вочы крычаць да мяне з жаху ягонай смерці. Я... Разам з ім на дно... Я не мог яе ўратаваць. Воды: горкая смерць: прапала.

Жанчына й мужчына. Бачу яе спаднічкі. Падкасаныя, іду ў заклад.

Іхні сабака мітусіўся па штораз меншай палосцы пяску, трухаў, нюхаў на ўсе бакі. Шукае штосьці згубленае ў мінулым жыцці. Раптам ірвануў зайцам, вушы на сабе, у пагоні за ценем нізка слізганулае чайкі. Пранізлівы мужчынскі свіст ударыў яму ў абвялыя вушы. Ён завярнуўся й паімчаў назад, наблізіўся, міготкія лапы перайшлі на трух. У жарым полі бягучы алень, колеру прыроднага, бязрогі. Перад кужэльнай аблямоўкай прыліву спыніўся, упёршыся пярэднімі лапамі, вушы наставіў на мора. Прыўзняўшы пысу, забрахаў на хвалягул, на чароды маржоў. Яны паўзлі яму пад ногі, завіваліся, расплятаюся пад пеністымі грабянямі, кожная дзевятая, разбіваліся, расплёскваліся, здалёк, з найдалейшай далі, хвалі ды хвалі.

Збіральнікі смаўжоў. Яны брадзілі непадалёк ад берага, нагіналіся, запускалі ў ваду свае мяшкі, выцягвалі, брылі назад. Сабака, скуголячы, падбег да іх, узняўся на задніх лапах і крануўся іх пярэднімі, апаў на ўсе чатыры й зноў узняўся да іх з нямой мядзведзяватай пяшчотай. Пакінуты без увагі, ён пайшоў за імі на сухое, у зяпе чырвана дрыгала яму анучка воўчага языка. Рабое цела дробным поступам выперадзіла іх, потым неспадзявана прыпусціла цялячымі скокамі. Сабачае падла ляжала на ягоным шляху. Ён стаў, панюхаў, абышоў вакол, браток, прынюхаўся бліжэй, зрабіў яшчэ адно кола, хутка па-сабачаму абнюхваючы ўсю ўгвэдзаную скуру здохлага сабакі. Сабачы чэрап, сабачы нюх, апушчаныя долу вочы імкнуцца да аднае вялікае мэты. Ах, бедачына-сабака. Тут ляжыць бедны труп бедачыны-сабакі.

— Шмотак! Прэч адтуль, брахун!

Сунятм выкрыкам, ён вярнуўся да пана, і тупы босы выспятак перакінуў яго, скурчанага ў лёце, за пясчаную касу. Ён зладзюгаватым агібам падаўся назад. Не бачыць мяне. Ён пасноўдаў, пакруціўся ўскрай каменнага насыпу, абнюхаў адзін валун і памачыў яго, падымаючы заднюю лапу. Трухам падбег дапераду і, зноў падняўшы заднюю лапу, сікнуў кароткім цуркам на неабнюханы валун. Простыя прыемнасці бедакоў. Потым заднія лапы пачалі раскідваць пясок, а пазней і пярэднія пачалі разграбаць і рыць. Штосьці ён тут хавае, ці не сваю бабку. Ён заглыбляўся ў пясок, выграбаў, рыў, спыніўся, прыслухаўся, зноў пачаў дзерці пясок лютымі кіпцюрамі, хутка перастаў, пантэра, леапард, зачаты ў чужаложніцтве, трупадзёр.

Пасля таго як ён мяне разбудзіў уначы, той самы сон ці? Чакай. Адчыненыя сені. Вуліца шлюхаў. Прыпомні. Гарун-аль-Рашыд. Ужо амаль што. Той чалавек вёў мяне, прамаўляў. Я не баяўся. У яго была дыня, ён паднёс яе да майго твару. Усміхаўся: крэмавы пах. Такі звычай, сказаў ён. Увайдзі. Хадзі. Чырвоны дыван разасланы. Пабачыш хто.

Закінуўшы мяшкі за плечы, валакліся яны, чырвоныя егіпцяне. Ягоныя пасінелыя ногі ў падкасаных портках шлёпалі па глейкім пяску, цёмнацагляны шарф зашмаргнуў няголенае падбароддзе. Жаночай хадой дробіла за ім яна: разбойнік і ягоная дзеўка. Здабыча целяпаецца ў яе за плячыма. Жвір і аскепкі ракавін абляпілі ейныя босыя ногі. Валасы распушыліся вакол твару, пашэрхлага ад ветру. За сваім панам ягоная памагатая, нацянькі ў каралеўскую сталіцу. Калі ноч прыхавае цялесныя хібы, яна пачне наклікаць, захутаная ў карычневы шаль, з-пад нейкае брамы, дзе паскудзяць сабакі. Ейны альфонс частуе двух каралеўскіх стралкоў у О'Лёкліна на Блэкпітсе. Пабуськай яе, задабры цыганскім лемезам, о мая ты бачурка незашпунтаваная. Белізна д'ябліцы пад пратухлымі лахманамі. Тая ноч на Фамбалілейн: смурод ад гарбарні.

**Рукі белы, лыч чырвоны,**
**Два паўзадкі, як кавоны.**
**Ляж, бачурка, са мной спаткі,**
**Будуць буські ды абхваткі.**

Панурая насалода, гэтак называе тое пузаты Аквінат, frate porco-spino[4]. Бяз-

***думку, паміж пакаленнямі. Ці існуе нешта падобнае ў «белавежцаў»?***

— Вашую сітуацыю я няблага ўяўляю з розных рэспубліканскіх выданняў, якія даводзіцца чытаць. Наколькі я разумею, існавала пэўная генерацыя літаратараў, якія прадстаўлялі «афіцыйную беларускасць» — для Масквы, для КПСС і гэтак далей. На схіле камуністычнай эпохі з'явілася новая генерацыя, каторая дайшла да беларускасці па-за афіцыйнымі структурамі. Для іх была вяршыня адчаю — кінуцца ў тую беларускасць, каб захаваць сваю чалавечую годнасць. Гэта, безумоўна, людзі будучыні. Лёс беларускай культуры залежыць менавіта ад іх.

Нашае літаратурнае асяроддзе вельмі малое, і дашукацца нейкіх «водападзелаў» тут цяжка. Што тычыцца асабіста сябе, дык я ані ў якім разе не знітоўваю тое, што раблю, з той псеўдабеларускасцю, якая яшчэ пануе сярод пэўнай часткі тутэйшых літаратараў, што выраслі яшчэ за часамі Гамулкі і Герэка. Як, дарэчы, і Сцепанюк, і Артымовіч, і Лукша, ды й шмат хто яшчэ. У чым розніца? Перш за ўсё — у мастацкіх арыенцірах і літаратурных густах. Мы ніколі не будзем пісаць рыфмаванкі накшталт: «Я беларус, я гэтым ганарусь!» Па-другое, у літаратараў таго пакалення адчуваецца нейкае місіянерства — маўляў, роля, якую прызначыў ім Пан Бог, ну такая ўжо адказная, што больш няма куды. Пэўна, яны яшчэ ўсур'ёз лічаць, што які-небудзь спаланізаваны фацэт прачытае іх кніжкі і адразу ж стане беларусам. Літаратура ні ў якім разе не сродак змагання, не нейкая зброя. Гэта перш за ўсё мастацтва.

***— Ведаеш, у мінскіх рэдакцыях прозвішча Максімюк знітоўваецца перш за ўсё з перакладам «Уліса». Давай пагаворым больш падрабязна пра гэтую працу...***

— Пераклад гэты ёсць, гатовы арыгінал-макет, але пакуль што яшчэ кніжка не выйшла. Пераклад «Уліса» вымагае ведання мовы ва ўсім стылістычным і лінгвістычным багацці — маю на ўвазе адэкватны мастацкі пераклад, а не падрадкоўнік. Трэба кожнаму слову, кожнай лексічнай адзінцы знайсці адпаведнік у беларускай мове...

***— Джойс у пэўнай ступені — літаратура элітарная. Відаць, апроч усяго, сваім выбарам ты падсвядома імкнуўся наблізіць беларускую літаратуру да нейкіх агульнаеўрапейскіх кшталтаў?***

— Безумоўна. Увогуле, тэндэнцыя гэтая досыць уласцівая для сучасных мастацкіх перакладаў — Васіль Сёмуха адмыслова пераклаў «Доктара Фаустуса» Томаса Мана і «Гульню шкляных перлаў» Германа Гесэ. Што тычыцца Джойса, дык пануе сцвярджэнне, што гэта — «пісьменнік пісьменнікаў», бо ён меў больш уплыў на пісьменніцкую публіку, чым на чытацкую. Чытае яго досыць элітарнае кола людзей, шмат навукоўцаў пішуць па яго творчасці дысертацыі, распрацоўкі і гэтак далей. Але такія кніжкі — паказчык спеласці літаратуры. Уплыў Джойса на еўрапейскія літаратуры каласальны, асабліва там, дзе адразу пасля выхаду з'явіліся пераклады. Але я лічу заганным падзел літаратуры на «элітарную» і «неэлітарную», асабліва — у беларускім кантэксце.

***— Але, як цяпер многія сцвярджаюць, беларуская літаратурная мова маларапрацаваная. Мне асабіста гэтае сцвярджэнне падаецца даволі слушным. Ці заўважыў ты гэта пры перакладзе?***

— Я лічу, што беларускай мове можна надаць усё лексічнае і стылістычнае багацце мовы Джойса. Я добра зразумеў гэта пры перакладзе. Ведаеш, калі б я карыстаўся толькі акадэмічнай, афіцыйна прынятай моваю, то ніколі не здолеў бы зрабіць сваю працу — у акадэмічных слоўніках ды дапаможніках для многіх слоў няма трапных адпаведнікаў. Давялося вышукваць іх з іншых слоўнікаў, перш за ўсё — Станкевіча, Байко і Некрашэвіча, Ластоўскага. Ты ж ведаеш, што ў трыццатых гадах з нарматыўнай беларускай мовы было выкінута мноства слоў — «буржуазна-нацыяналістычных», «нацдэмаўскіх» і гэтак далей. Другі шлях узбагачэння — дыялектызмы, якіх я шмат назбіраў і на Беласточчыне, і ў фальклорных зборах, выдадзеных Беларускай Акадэміяй навук. Згадзіся, што афіцыйная беларуская мова ўспрымаецца, па сутнасці, як мёртвая — як лаціна ці эсперанта. Дарэчы, з прычыны панавання ў вас гэткай скалечанай мовы я і не хацеў аддаваць свой пераклад у якое-небудзь дзяржаўнае мінскае выдавецтва.

***— Мо ёсць і іншыя прычыны таго, што «Уліс» выходзіць на Беласточчыне?***

— Так, натуральна. Мы — этнічныя беларусы, і чаму б тут не друкавацца беларускім кніжкам? Тым больш, што з'явіліся спонсары — беларускія бізнесмены з фірмы «Амэга», якія на час перакладу далі мне стыпендыю. А само выданне фінансуе польскае Міністэрства культуры. Палякам гэта выгадна перш за ўсё з ідэалагічнага боку — па-першае, паказаць, што ў краіне паявіліся два пераклады Джойса, а па-другое — давесці ўсяму свету і перадусім Беларусі, як тут дбаюць аб культуры беларускай нацыянальнай меншасці. У прынцыпе, гэта — факт рэкламны і прапагандысцкі, але галоўная мэта — выхад кніжкі.

Спадзяюся, што пасля «Уліса» мне хопіць моцы і на наступныя працы — польска-беларускі слоўнік, які мы рыхтуем з Сяргеем Шупам /дарэчы, ён — рэдактар «Уліса»/, і на пераклад рамана Фолкнера «Святло ў жніўні», якога, наколькі я ведаю, на Беларусі яшчэ няма.

***— Поспехаў табе, і дзякуй за гутарку!***

*г. Беласток*

грэшны Адам пакрываў і не ведаў маркотлівасці. Хай сабе гарлапаніць: два паўзадкі, як кавоны. Мова ні крышачку не горшая, чымсьці ў яго. Манахасловы, ружанцавыя пацеркі балбочуць ля падпярэзак: бандытасловы, залатыя самародкі жаргоняць у кішэнях.

Мінаюць.

Краем вока на мой Гамлетаў капялюш. А калі б раптам я апынуўся тут голы? Але я не голы. Праз пяскі ўсяго свету, на захад, на вечаровыя землі кіруюць, а следам за імі палымяны меч сонца. Яна валачэ, шлепіць, ташчыць, транспартуе, трашынуе сваю ношу. Прыліў па пятках следам, цягнены месяцам на захад. Прылівы з мірыядамі астравоў у ейным нутры, кроў, не мая, oinopa ponton, віннацёмнае мора. Вось я — слуга Месяца. У сне вільготны знак будзіць яе ў наканаваную гадзіну, панукае ўзняцца з ложа. Шлюбнае ложа, радзільнае ложа, смяротнае ложа ў кашмарным святле свечак. Omnis caro ad te veniet[5]. Надплывае ён, бледнатвары вампір, бліскаюць вочы праз шторм, кажанавы крылы-ветразі крывавяць мора, губамі да пацалунку ейных губ.

Так. Хіба прышпілім гэтую зяпу, што? Мая грыфельная дошка. Губы да яе пацалунку. Не. Трэба, каб абое. Зляпі іх акуратна. Губамі ўпіцца ў яе губы.

Ягоныя вусны хапалі й цалавалі бесцялесныя вусны паветра: вуснамі да таго, чым нарадзіла. Іла, ва ўлонні ўсім магіла. Вусны выпучыліся, выпускаючыя дых, бясслоўна: ooiiixa: рык вадаспаду планет, шарападобных, распаленых, рыкаючых прэч-прэч-прэч-прэч. Паперу. Банкноты, трасца на іх. Лісты старога Дызі. Тут. Дзякуючы за гасціннасць, аддзяры незапісаны спод. Адвярнуўшыся да сонца спінай, ён нізка пахіліўся над каменным сталом і пачаў крэмзаць словы. Ужо другі раз я забыўся ўзяць бланкі з бібліятэкі.

На скале, над якой ён пахіліўся, ляжаў ягоны цень, закончаны. А чаму не бясконцы, ажно да найдалейшае зоркі? Яны цёмныя там, за межамі святла, цемра ў святле свеціць, дэльта Касыапеі, сусветы. Маё я сядзіць тут з ясянёвым посахам варажбіта, у пазычаных сандалях, днём каля шызага мора, нябачнае, фіялетавай ноччу вандруе пад эгідай неразгаданых зораў. Я адкідаю ад сябе гэты закончаны цень, непазбежныя чалавечыя абрысы, і вяртаю яго назад. А бясконцы, быў бы ён маім, формаю мае формы? Хто бачыць мяне тут? Хто прачытае, дзе і калі, гэтыя запісаныя словы? Значкі на белым полі. Дзе-небудзь каму-небудзь тваім наймеладычным голасам. Добры епіскап Клёйну выцягнуў заслону святыні са свайго капелюша: заслону прасторы з каляровымі эмблемамі, вышытымі на ейным полі. Чакай, падумай. Каляровае на плоскім: так, менавіта. Я бачу плоска, потым уяўляю адлегласць, блізка, далёка, а бачу плоска, на ўсход, ззаду. Ах, цяпер разумееш! Раптоўна падаецца назад і застывае ў стэрэаскопе. Пстрычка — і во табе штучка. Словы мае цёмнымі вам здаюцца. Цемра ў нашых душах, гэтак вам не здаецца? Меладычней. Нашы душы, параненыя сорамам за нашы грахі, туляцца да нас яшчэ мацней, як туліцца жанчына да свайго каханка, мацней, яшчэ мацней.

Яна мне давяраецца, рука ў яе далікатная, вочы даўгавеістыя. Куды, на жах пякельны, я павяду яе за той заслонай? У непазбежную мадальнасць непазбежнай бачнасці. Яна, яна, яна. Што за яна? Цнатліўка ля вітрыны Ходжэса Фігіса ў панядзелак, шукала адну з тых альфабэтных кніжак, што ты збіраўся пісаць. Ты да яе так і прыліпнуў зрокам. Згіб далоні ў плеценай пятлі парасона. Жыве ў Лісан-парку, на пайку ў журбы й бяды, літаратурная дама. Загаворвай зубы каму іншаму, Стыві: звычайная шлюшка. Іду ў заклад, што яна носіць тое Божае праклянцце, гарсэт з падвязкамі, і жоўтыя панчохі, зацыраваныя камякаватай ваўнянай ніткай. Паразмаўляй пра яблычныя піражкі, piuttosto[6]. І дзе ж твой клёк?

Дакраніся да мяне. Мяккія вочы. Мяккая-мяккая-мяккая рука. Я самотны тут. О, крані мяне хутчэй, цяпер. Што гэта за слова, якое ведаюць усе? Я ціхі тут, сам адзін. І сумны. Крані, крані мяне. Ён расцягнуўся ніцма на вострых скалах, запіхнуўшы ў кішэню запісаную паперыну й аловак, насунуўшы на вочы капялюш. Я дакладна паўтарыў жэст Кэвіна Ігэна, калі ён збіраўся падрамаць, пасуботнічаць. Et vidit Deus. Et erant valde bona[7]. Алё! Bonjour[8], вітай, як расквечаны май. З-пад капелюша, праз павадрыготкія вейкі, ён пагляда ў на паўднеючае сонца. Я трапіў у палон палаючай сцэны. Часіна Пана, поўдзень Фаўна. Сярод сочнацяжкіх вужарослін, малакацечных пладоў, дзе на жарых водах ушыркі сцелецца лістота. Боль далёка.

/.../

---

*1 Павозка завязлая ў пяску /франц./.*
*2 Жах маючы на роздуме /лац./.*
*3 Вядома /ням./.*
*4 Брат-іглак /італ./.*
*5 Усё жывое да цябе імкнецца /лац./.*
*6 Хутчэй /італ./.*
*7 І ўбачыў Бог. І вось вельмі добра ёсць /лац./.*
*8 Добры дзень /франц./.*

Хведар ЖЫЧКА



## ГОД ПЕЎНЯ

**Галавой бабуля пахітала:**
**«Заразіла люд бацыла шалу...»**

**Сапраўды, куды ні глянь: садом,**
**проста свет — не свет, вар'яцкі дом,**

**верціцца, як тыя каруселі;**
**людзі ў куламесе ачмурэлі,**

**не аруць, не сеюць, не куюць,**
**толькі ўсё купляюць-прадаюць**

**ды вязуць багацце за граніцу:**
**бульбу, лес, гарэлку і пшаніцу,**

**прасы, халадзільнікі, цвікі,**
**гузікі, падцяжкі, аплікі...**

**Нібы ў нас таго ўсяго замнога**
**і самім не трэба ўжо нічога**

**ні купляць-спраўляць, ні мыць, ні шыць,**
**ні насіць, ні есці і ні піць,**

**ні адпачываць і ні лячыцца,**
**ні вучыцца і ні весяліцца...**

**Ці ж ты, Певень, праглынуў язык?**
**Дзе твой спеў світальны, дзе твой крык?**

**Заспявай пабудку, недарэка,**
**ўсёй краіне, зычна: «Ку-ка-рэ-ку-у-у!»**

**Бі трывогу! Твой жа гэта год,**
**разбудзі учадзелы народ!**

## КАРАБЛЕКРУШЭННЕ

**Было яно**
**не так даўно —**
**хлусні курыўся дым,**
**ішоў наш карабель на дно,**
**здавалася ж — ляцім,**
**ляцім вятрам наперакор**
**да новых дзён,**
**да ясных зор.**

**Стаяў у рубцы капітан —**
**надзейны стырнавы,**
**і мы не бачылі, што ён**
**зусім без галавы,**
**у ладкі пляскалі:**
**— Ура-а-а!**
**Ты пяць разоў Герой!**
**Ты наша светлая зара!**
**Вядзі нас за сабой!**
**І ён нас вёў,**
**не хмурыў броў**
**адважны камандзір,**
**да зор сягаў**
**і аздабляў**
**свой маршальскі мундзір.**

**Прывёў дзяржаўны карабель,**
**вядома ж, не да зор,**
**а пасадзіў яго на мель,**
**спужаўся і... памёр.**

**А мы?**
**На беразе пустым**
**бездапаможныя сядзім**
**і без яды,**
**і без агню,**
**і без віна,**
**без тытуню,**
**глядзімся ў мутны вадаём,**
**саміх сябе не пазнаём:**
**мурзатыя,**
**нямытыя,**
**з каленямі пабітымі...**

## ХТО?

**Хто там золатам бразгоча?**
**Хто патокі лье маны?**
**Хто ярмо надзець зноў хоча,**
**закаваць у кайданы?**

**Хто пад пахвамі казыча?**
**Хто туманіць галаву —**
**да святла, да сонца кліча,**
**а вядзе нас у дрыгву?**
**Хто?**

## ВЫВАРАЦЕНЬ

**Не забудзе дрэва ўжо ніколі,**
**як яно валілася на дол,**
**як стагнала,**
**плакала ад болю,**
**каранямі ірвучы падзол.**

**Пад пякучым сонцам смягне вецце,**
**не дачакаўшыся дажджоў,**
**і пясчынкі выдзімае вецер**
**з-пад яго абвіслых каранёў.**

**Вечна не загояцца ўжо раны...**
**Вечна дні ў самоце каратаць...**

**Гэта ж толькі вытаптаным травам**
**удаецца зноў на ногі ўстаць.**

●

**Хаця журбота ціхая**
**вярэдзіць мне душу,**
**яшчэ, сябры, я дыхаю,**
**яшчэ я штосьці пішу.**
**Звініць ва мне сімфонія,**
**спаць не дае ўсю ноч:**
**«Задумамі напоўненай**
**надзеі не суроч!»**

**Як той жаўрук, спяваю я.**
**І са страхі душы,**
**прыгрэтыя, зрываюцца**
**маркоты ледзяшы.**

●

**Куды ты, чэрвень басаногі,**
**бяжыш па сцежцы палявой?**
**Я пастарэў,**
**аслаб намнога**
**і не ўганюся за табой.**

**Не мне ўжо з моладдзю цягацца —**
**пайшлі ў нябыт**
**імпэт і спрыт.**
**Пражыты дзень лічу я шчасцем**
**і ўзнагародай — апетыт.**

**І сонца больш мяне не грэе,**
**і вецер хіліць,**
**як траву,**
**прайдуся — і спіна макрэе,**
**дурманіць водар галаву...**

**І не вярнуцца мне ўжо ў лета,**
**не піць нектару юных мар...**

**Ды ўсё ж**
**шукаю я прасвету,**
**каб сонца ўгледзець**
**паміж хмар.**



*Фота В. МАЙСЮКА*

Кіно

***Адам ГЛОБУС у артыкуле «Не тутэйшыя» /«ЛіМ» ад 19 сакавіка 1993 года/ распавядаў пра дачыненні пісьменніка з кінарэжысёрамі Валерыем Панамаровым і Валерыем Рыбаравым /для абодвух Глобус пісаў сцэнарыі/, недвухсэнсоўна сцвярджаў: «...абодва рэжысёры, з якімі давялося працаваць... скарыстаўшы хвалю беларусізацыі, вырашылі ствараць нацыянальнае кіно». Глобус, «па сваёй наіўнасці думаў, што беларускае кіно будзе рабіцца людзьмі, якія ведаюць мову; пра літаратуру, гісторыю, культуру, побыт...» ён ужо і не кажа... Адказ Валерыя РЫБАРАВА змушае падумаць — хто з бакоў, спрычыненых да стварэння фільма «Голас крыві брата твайго», мае рацыю, ды пільна зважыць на абставіны, у якіх фільму ці то быць, ці то не быць.***

# СТУПЕНЬ КУЛЬТУРЫ І ШЧАСЦЕ ПАРАЗУМЕННЯ

## АДКАЗ КІНАРЭЖЫСЁРА СЦЭНАРЫСТУ-ПАЧАТКОЎЦУ

Можна было б не зважаць на абражанага самалюбівага маладога пісьменніка, які пачынае ў кіно, забыцца і на нашыя нядоўгія дачыненні, і на ягоны артыкул. Цярпліва растлумачыць яму, што непрыманне таго ці іншага сцэнарыя, альбо разыхожданні са сцэнарыстам — рэч у кінематографе звычайная. Што нават шматлікім адметным сцэнарыстам не выпадала перажыць адзінства з рэжысёрам. Што шчасце творчага паразумення надзвычай рэдкае. Што з такім хваравітым гонарам яму выпадзе яшчэ шмат непрыемных спатканняў у кіно, перш чым ён усвядоміць, што ўсё адно намаганнямі рэжысёра ягонае слова зменіцца, набываючы на экране інакшую вобразнасць ды плоць, бо прырода кінематографа не падобная да літаратурнай. І што не трэба вам, Глобус, так сутаргава трымацца за свой запіс і з агрэсіўнай недалікатнасцю даводзіць ягоную вартасць праз газету. Лепш свае намаганні прыкласці да вывучэння кінематаграфічных азоў ды працаваць з рэжысёрам у згодзе...

Але складанасць у тым, што пасля ўзятага тону ў артыкуле мне давядзецца не рукацца з сынам пісьменніка Вячаслава Адамчыка, паводле рамана якога ў 1982 годзе, задоўга да «хвалі беларусізацыі», як Глобус меў ласку сфармуляваць, я зняў фільм «Чужая бацькаўшчына». З Вячаславам Адамчыкам мяне звязвае шматгадовае творчае калегаванне, але пра гэта вы, Глобус, змаўчалі, і я разумею — чаму. Вам, як інтэрпрэтатару, была адведзена сціплая роля, — беражлівага стаўлення да таленавітай прозы вашага бацькі. Дзіўна, але пад вашым пяром сапраўднае жыццё, сапраўдныя пачуцці і драма героя рамана «Голас крыві брата твайго» бляклі, рабіліся безжыццёвымі, нецікавымі. Таму я і развітаўся з вамі.

На гэтым можна было б і скончыць, але вы дазволілі сабе крануць у рэзкіх выразах нацыянальнае пытанне, якое не мае дачынення да творчых праблем. І, вядома, гэтае пытанне вымагае не «кухоннага» ўзроўню, які вы прапанавалі, а навуковага, філасофскага разважання. Я толькі заўважу, што амаральнасць нацыяналізму, які замахваецца на свабоду і годнасць іншых народнасцей, даводзіць лічу залішнім.

Мне цяжка паверыць, што вы не разумееце розніцы паміж нацыянальным і нацыяналістычным. За вашымі прапановамі падбіраць кадры па нацыянальных прыкметах схавана куды большае за стылістычныя практыкаванні пісьменніка-пачаткоўца... Ваш пункт гледжання, Глобус, скажае самую нацыянальную ідэю беларускага народа, якая заўсёды была станоўчай сілай. У ёй — паважлівае стаўленне да ўсіх народнасцяў, каштоўнасцяў і дасягненняў на зямлі. Гэтая ідэя спавядае высокую мараль. З ёй не сумяшчаюцца нацыянальны эгаізм ды ганарлівасць...

Сёння, на жаль, думкі многіх скіраваныя да размежавання, а не да лучнасці. Яны з лёгкасцю выракаюцца агульначалавечага, ідэі яднання ўсяго чалавецтва. Думка пра адзінства мела б для мяне вялікую каштоўнасць і тады, калі б яна была мрояй ці летуценнем, як і думка пра тое, што ўсе мы — толькі часткі адзінага. Я не хачу верыць у вечнасць нацыянальнай варожасці.

Шмат якія нацыі былі ўдзячныя мастакам, што здолелі зразумець, перажыць, адчуць, выказаць, ды ўславіць іх нацыянальную гісторыю ды культуру. Рускі рэжысёр Андрэй Канчалоўскі фільмам «Першы настаўнік» — казахска-кіргізскую, армянін Сяргей Параджанаў «Ценямі забытых продкаў» — украінскую, чэх Мілаш Форман «Палётам над зязюльчыным гняздом» — амерыканскую, Элем Клімаў фільмам «Ідзі і глядзі» — беларускую, і г.д. Вам жа, Глобус, я рызыкнуў бы даць параду: не адсякайце сябе ад рускай культуры, ад гэтай глыбокай і магутнай крыніцы духоўнасці, змагайцеся з тымі, хто распальвае нянавісць, разбярыцеся з мараллю ды здаровым розумам вашых «прыхільнікаў», а ў вольную часіну перачытайце «Размовы з Гётэ ў апошнія гады яго жыцця» Экермана. Там вы напаткаеце такія словы: «На самай ніжэйшай ступені ў культуры вы знойдзеце самую моцную й бязлітасную нацыянальную рознь. Чым ніжэй ступень культуры, тым мацнейшая і бязлітасная нацыянальная нянавісць».

**Валерый РЫБАРАЎ**

## P.S. ЮРЫДЫЧНАЯ ДАВЕДКА.

Кантракт пра напісанне літаратурнага сцэнарыя з аўтарамі Адамам Глобусам і Феліксам Кучарам скасаваны студыяй «Ард-фільм» на падставе наступных палажэнняў:

I. Аўтары адмовіліся папраўляць і перарабляць напісанае.

2. Рэжысёр-пастаноўшчык яго не прыняў.

Паводле кантракту аўтарам А.Глобусу і Ф.Кучару студыяй «Ард-фільм» аванс выплачаны поўнасцю.

## ЗАМЕСТ КАМЕНТАРЫЯ

З пасяджэння экспертнай рады па кінематаграфіі пры Міністэрстве культуры рэспублікі Беларусь. Прысутнічалі ў якасці радцаў: мастацтвазнаўцы і крытыкі Ніна Фральцова, Анатоль Красінскі і Барыс Святлоў /ён жа — намеснік міністра культуры/, рэжысёры Ігар Дабралюбаў, Вячаслаў Нікіфараў, Міхаіл Пташук і Валерый Рыбараў. Гаворка ідзе пра фільм «Голас крыві брата твайго», здымкі якога, паводле В.Рыбарава, сарваны кінастудыяй «Беларусьфільм».

В.РЫБАРАЎ. Творчая група зрабіла ўсё, што ад яе залежала. Перадусім асэнсавала тэму, ідэю, знайшла аб'екты, акцёраў. Упершыню давялося працаваць у атмасферы незацікаўленасці вынікамі з боку кінастудыі. Тэрмін падрыхтоўчага перыяду /маўляў, не падрыхтаваны касцюмы, дэкарацыі і да т.п./ падоўжаны на 91 дзень. Такога на маёй памяці яшчэ не было. Паколькі вобразная катэгорыя фільма наймоцна звязана з гістарычнай, пераносіць здымкі з вясны /ранняй!/ на лета немагчыма.

В.НІКІФАРАЎ. «Голас крыві...» — так званы дзяржзаказ. Гэтае паняцце сплюжэла пасля першай жа /маёй, дарэчы/ спробы, зняць фільм па дзяржзаказе. Ці магчымая ў нашых умовах такая раскоша? Мо і магчымая, але крытэрый мусіць быць адзіны — кантракт з усімі наступствамі. І тут мы выходзім на пытанні, далёкія ад карціны Рыбарава. «Беларусьфільм» надта мала спрыяе не тое каб творчасці, — вытворчасці фільмаў. На студыі няма гаспадара.

І.ДАБРАЛЮБАЎ. Я — на баку мастака. Але хто мусіць быць пакараны /хоць аднойчы!/ за тое, што фільм сарваны?

А.КРАСІНСКІ. Карціну Рыбарава ўжо відаць паводле спроб. Вобразы фільма ўжо вымалёўваюцца, ёсць атмасфера, пазначаны канфлікты, распрацаваны дзейныя лініі... Зрэшты, рэжысёр жа прапануе не ката ў мяху! Значыць, канфлікт вытворчасці і мастацтва ўжо невырашальны?..

З загада міністра культуры рэспублікі Беларусь «О прекращении работ съёмочной группой «Голас крыві брата твайго...»:

«Прекратить все работы по производству фильма с 25 мая 1993 года. Создать комиссию по определению сложившейся ситуации».

Работы па здымках не адноўлены.

**Аддзел тэатра, кіно і тэлебачання**

Пошукі, знаходкі

# СЛЯДЫ ВЯДУЦЬ У ПЕТКАВІЧЫ

## АБ РОДАПАХОДЖАННІ ІВАНА ФЁДАРАВА

Як адзначаюць энцыклапедысты, Іван Фёдараў /нарадзіўся каля 1510 г., памёр у 1583 г./ з'яўляецца заснавальнікам кнігадрукавання ў Маскоўскай Русі і на Украіне. Па ўскосных звестках вучыўся ў Кракаве ва універсітэце, дзе атрымаў дыплом бакалаўра. Разам з Пятром Мсціслаўцам у Маскве выдаў першую рускую друкаваную кнігу «Апостал» /1564 г./. На сёння захавалася каля 50 экз. гэтай кнігі.

Іван Фёдараў адзін час жыў у Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім у Заблудаве, дзе яго прыгрэў гетман Хадкевіч. Тут ён выдае «Учительное евангелие» з «Словом Кирилла Туровского», «Псалтырь» з «Часословцем». Далей шляхі прывялі Фёдарава ў Львоў і Астрог, дзе ён працягваў сваю выдавецкую дзейнасць. У Львове ён і памёр. На яго магільнай пліце былі словы: «Друкарь книг пред тым невиданных». Вядомы Іван Фёдараў і як публіцыст, дыпламат і яшчэ вынаходнік гармат.

Што цікава, энцыклапедысты ў Расіі нідзе не пазначаюць месца нараджэння свайго /?/ вялікага сына. А як гэта пытанне асвятляюць нашы беларускія энцыклапедыі? Паглядзім апошняе выданне «Франциск Скорина и его время» /1990 г./. Там мы чытаем: «Место рождения /маецца на ўвазе Іван Фёдараў. — М.М./ неизвестно. Исходя из геральдической трактовки его печатного знака, В.К.Лукомский выдвинул гипотезу о бел. происхождении Ф.» Вось гэтыя словы і ўразілі мяне. Трэба было ісці за даведкамі да Лукомскага /1882—1946/. Гэта адзін з буйнейшых і аўтарытэтнейшых спецыялістаў па геральдыцы. У 1935 годзе ён друкуе артыкул «К вопросу о родопроисхождении Ивана Фёдорова». Ашаламляльны вывад гэтага артыкула: друкарскі знак Фёдарава — гэта шляхецкі герб «Шрэнява» беларускага роду Рагозаў.

Як выглядае друкарскі знак І.Фёдарава? На шчыце — стужка ў выглядзе люстранай лацінскай літары «S». Зверху — страла. На полі размешчаны літары, у адным з варыянтаў герба — імя друкара, а ў другім — яго ініцыялы.

Вывады Лукомскага ў той час былі заўважаны, але сталінскімі цэрберамі ад навукі праігнараваны, бо не маглі іх сэрцы прыняць, што на Маскоўскую Русь друкары прыйшлі з Літоўскай Русі, таму яны і Пятра Мсціслаўца трымалі ў цені Івана Фёдарава.

Другі відны вучоны масквіч Яўген Неміроўскі ўжо ў наш час вырашыў гіпотэзу У.Лукомскага праверыць новымі навуковымі даследаваннямі. Вынікі гэтай вялікай і карпатлівай працы ўскосна пацвердзілі здагадку віднага геральдыста. У Кракаве ў кнізе «Альбус Студиозорум» ёсць паметка пад годам 1529-ым: «Иван Фёдоров из Питковичей».

Неміроўскі абклаўся кнігамі, мапамі, рознымі даведкамі і пачаў шукаць гэтыя Піткавічы ў краіне «абодвух народаў». Ён знайшоў аж тры вёскі з такімі назвамі ў Беларусі /Петкавічы — так яны гучаць па-беларуску. — М.М./. Першая — за 8 вёрст ад Радашкавіч, другая — непадалёку ад мястэчка Койданава /зараз горад Дзяржынск/. А трэцяя? Росшукі прывялі да вёскі Петкавічы ў Баранавіцкім раёне.

Як піша Я.Неміроўскі, «Из тех же самых мест происходила шляхетская семья Рагозиных, пользовавшаяся гербом «Шренява».

Круг вроде бы замкнулся».

Дык, можа, баранавіцкія Петкавічы і з'яўляюцца радзімай Івана Фёдарава?..

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**сапраўдны член Геаграфічнага таварыства**
г.Баранавічы

З пошты "ЛіМа"

# ЗВАННЕ НЕ ПРЫСВОЙВАЕЦЦА НАЗАЎСЁДЫ

Каму невядома творчасць знакамітых на Гродзеншчыне тэатральных калектываў Астрынскага Дома культуры? Нездарма яны заслужылі ганаровае званне народных. Але званне не прысвойваецца назаўсёды: яго трэба пацвярджаць высокім майстэрствам, нястомнай штодзённай працай, пастаянным творчым пошукам. Вось і нядаўна самадзейныя артысты з Астрына бралі ўдзел у аглядзе народных тэатраў на пацвярджэнне звання. Выступленні прайшлі «на біс»! Паэтычны тэатр «Волат» абараняўся спектаклем па п'есе Васіля Віткі «Матчына калыханка», а драматычны тэатр паставіў камедыю Уладзіслава Галубка «Ветрагоны». Абодва спектаклі мелі вялікі поспех у гледачоў.

...Ірына Жукоўская і Васіль Тумаш, Мікалай Жукоўскі і Уладзімір Палуян, Георгій Дзем'яновіч і Ірына Шыдлоўская — гэтыя і многія іншыя самадзейныя артысты, здаецца, не ўяўляюць сябе без сцэны народнага тэатра. Вельмі цікавыя людзі, самабытныя натуры ўваходзяць у ягоную трупу. Усе ўпадабалі Аксану Сімановіч — выканаўцу галоўнай ролі ў спектаклі «Ветрагоны». Удзячны гледачы і Галіне Храпе, Рыгору Судасу, Мікалаю Балабану, Ліліі Пласкевіч... А якімі цудоўнымі былі песні ў спектаклях на астрынскай сцэне! Яны гучалі ў выкананні Сабіны Рышкевіч, Аліны Максімовіч, Валерыя Васільева, Валянціны Салунінай. Поспех, з якім прайшлі выступленні народных тэатраў, па праву належыць рэжысёру Мікалаю Прыёмку. Густоўныя дэкарацыі зрабіў мастак Уладзімір Мальчугін.

**Вольга ХАДАРЭНКА,**
**былая настаўніца,**
**ветэран працы**



Выставы

# ПРЫМЕРКАВАНА ДА ФОРУМУ



*А. БАТВІНЁНАК. «Архангел Міхаіл».*




*А. КАЛАСЕНЦАВА. «Занатаванне ў памяці».*



*В. ДЗЁМКІНА. Габелен «Панадрыпяцкая завіруха».*

На мастацкай выставе «Жыве Беларусь!», адкрытай падчас Першага з'езда беларусаў свету і прымеркаванай да гэтай падзеі, мяне не пакідала ўражанне, нібыта экспазіцыю ладзіла суполка «Пагоня». І не таму, што на выставе вылучаліся творы сяброў «Пагоні», а з той прычыны, што дамінавала нацыянальная ідэя. Тая ідэя, якая ў свой час аб'яднала прадстаўнікоў розных творчых цэхаў вакол старажытнага герба Літвы-Беларусі.

Дамінавала нацыянальная ідэя і нацыянальна-гістарычная тэматыка. Прычым, тыя мастакі, якія прайшлі ў сваёй творчасці стадыю «этнаграфізму» дзесяць і болей гадоў назад, зараз наблізіліся да філасофскага асэнсавання лёсу свайго народа; а тыя, што зусім нядаўна трымаліся «сацрэалізму», вымушаны ў сувязі са зменай ідэалагічнай кан'юнктуры вучыцца беларушчыне і па сутнасці адкрываць для сябе Беларусь праз той жа самы «этнаграфізм». Другая адметнасць выставы — творы мастакоў-беларусаў блізкага і далёкага замежжа /Латвія, Жамойць, Польшча, Нямеччына, Злучаныя Штаты.../. Хтосьці з іх мае трывалыя кантакты з Бацькаўшчынай, хтосьці — жыве ўспамінамі, а нехта ніколі не бачыў сваёй гістарычнай радзімы, і ў аснове ягонай творчасці — суб'ектыўныя ўяўленні, што грунтуюцца на аповядах бацькоў, і супярэчлівай /і далёка няпоўнай/ афіцыйнай інфармацыі аб Беларусі. У якасці прыкладу можна спаслацца на этнаграфічныя матывы ў творчасці амерыканскіх беларусаў. У пэўнай ступені гэты кірунак тлумачыцца тым, што за мяжою ў савецкі час прапагандавалася ў асноўным беларуская этнаграфія, а не гісторыя. /Гісторыя гэта і ў БССР замоўчвалася/. Па выставе відавочна, што многія нашы суайчыннікі за мяжою маюць у сваіх бібліятэках вядомы альбом М. Раманюка «Беларускае народнае адзенне».

У экспазіцыі амаль няма твораў, якія б можна было далучыць да авангардысцкай плыні. Можа, таму, што, пазбавіўшыся арэолу пакутніцтва, атрымаўшы магчымасць выстаўляцца ў прэстыжных залах побач з афіцыйна прызнанымі майстрамі, мастакі-авангардысты сталі перад неабходнасцю сцвярджаць свой аўтарытэт не гучнымі дэкларацыямі, а прафесіяналізмам. Да такога абароту аказаліся гатовымі не многія... Праўда, больш разняволенымі адчулі сябе прыхільнікі традыцыйна рэалістычных форм. Сёння элементы «авангарднага» бачання адчуваюцца ў творчасці нават мастакоў старэйшага пакалення. Такім чынам, авангард адыграў у мастацтве Беларусі ролю каталізатара /паскаральніка/ творчага працэсу. І я лічу, што авангард сваё яшчэ возьме. Калі на змену амбіцыям прыйдзе высокая культура, нацыянальная свядомасць, разуменні сваіх каранёў. Калі, зрэшты, з'явіцца заказчык, пакупнік нефігуратыўнага, абстрагаванага мастацтва. Як, дарэчы, гэта ўжо адбылося ў краінах Балтыі.

Думаю, што і на шырокі міжнародны культурны рынак наша мастацтва выйдзе толькі тады, калі набудзе аблічча, адэкватнае краіне. Калі па творах нашых мастакоў, экспанаваных дзе-небудзь у Нью-Йорку альбо Мюнхене, тамтэйшы глядач без усялякіх пісьмовых або вусных тлумачэнняў зразумее: «Гэта Беларусь».

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**




*Я. САЛАВЯНЮК /ЗША/ «Святая Ефрасіння Полацкая».*



*Т. СТАГАНОВІЧ /ЗША/ «Вера. Надзея. Любоў».*



*Экспазіцыя дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.*



*У. ТОЎСЦІК. «Раніца».*

Змітрок МАРОЗАЎ



# ЖЫЦЦЁ БЕЗ ВЕРЫ ГАСНЕ

●

Жабрацкі час. Талоннае жыццё.
Няма ў людзях ні праўды, ні свабоды,
Ахоплены варожасцю народы,
Якіх чакае заўтра небыццё.
Стагоддзя варанёнае крыло
Збірае ў табуны нягодаў хмары.
Славянскі Бог памёр. Усюды зло
Над чалавечым родам уладарыць.

●

Гляджу я на мажных дзядзькоў,
Што ладзяць дачы,
А бачу юных хлапчукоў
З Язбоў і Начы,
З Абчугі, Худава, Дубоў...
Світанкам золкім
Яны пабеглі ад плугоў,
Ад косаў звонкіх.
Мы везлі ў горад кумпякі,
Тварог, смятанку...
За нас упартыя бацькі
Цягнулі лямку.
Сышлі на могілкі яны,
Астылі хаты.
У тым няма маёй віны,
Ды вінаваты.
...Гляджу я на мажных дзядзькоў,
Што ладзяць дачы,
Здаецца, бачу хлапчукоў
З Язбоў і Начы.

●

І зноў глядзіць заморскі госць
На нашы землі прагавіта...
Ёсць у мяне Радзіма, ёсць,
Дзе да нябёс бушуе жыта.

Тут на світанні жаўрукі
На працу сейбітаў гукаюць,
Паэты лепшыя радкі
Сваім каханым прысвячаюць.

Тут кожны бор — вячысты храм,
Дзе лепш чутно жывое сэрца...
Таму кажу, панове, вам:
«Мая зямля не прадаецца».

## ПАЖАРЫ

Гараць бары, лугі і жыта,
Палае родная зямля,
Ды суверэнная эліта
Глядзіць на полымя здаля.

Ёй напляваць на гора наша,
Пляваць ёй на цябе, народ...
Крывёй нявіннай пахне чаша
Падараваных нам свабод.

●

Нас не ўратуюць Сэмы, Джоны, Максы.
Не веру я сляпым павадырам,
Яны кляліся Леніну і Марксу,
А сёння славяць мёртвага цара.

Няхай сабе і з тварам чалавечым,
Але крывавай прагнуць малацьбы...
Для іх улада — нашая галеча,
А мы для іх — адвечныя рабы.

●

Глядзі, як мокрае лісцё
У полымі пакутна тлее...
Вось так і нашае жыццё
Без веры гасне і надзеі.

●

Там, дзе аплёўваюць святыні,
Якім маліліся заўжды,
Зямля падобна да пустыні,
Дзе не знайсці глытка вады.

Там чалавек, які стварае
Нашчадкам лепшае жыццё,
Яго наяве разбурае
І сам знікае ў небыццё.

●

Час няпэўны, бяздушны, крывавы і горкі.
Як пазбавіцца зла і згрызот?..
Над Радзімай такія астрожныя зоркі —
Колюць вочы, як лагерны дрот.

●

Душу я выпаліў да дна.
Сумленне ж зноў мяне катуе:
«Нат геніяльная мана
Будзённай праўды не каштуе».

●

Назапасілі зла мы даволі,
Бессаромна і скваппа жывём.
Маладое жытнёвае поле
Палыновым бярэцца агнём.

Можа, розум агонь той патушыць?
Ды навошта бяскрылым прастор,
Калі ў цемры аслеплыя душы
Больш не бачаць дарогі да зор.

●

Разбазараны скарбы ўсе нашы,
А месіі ўцяклі за мяжу,
Прад апошняй крываваю чашай
Аб адным цябе, Божа, прашу.

Дай мне моцы прайсці праз пакуты,
Дай цярпення мне здзекі стрываць,
Каб трываннем тым рабскія путы
Назаўсёды з нашчадкаў сарваць.

З пошты "ЛіМа"

# АД ТАЛАКІ ДА ТАЛАКІ...

Праўда і Мана, Дабро і Зло, Радасць і Гора, Розум і Дурнота — неразлучныя, як дзень і ноч, як белае і чорнае, як святло і цень. Спакон веку яны ходзяць побач і разысціся не могуць, гэтага ім не суджана...

Такое Жыццё. Так было і так ёсць, і так будзе, пакуль на зямлі свавольнічае праклятая, забытая Богам, Несправядлівасць. Яе, нібы тую песню, не задушыш і не заб'еш. Яна высока, яна далёка, яна — як сам Бог, пад якім мы ходзім!..

Упершыню Несправядлівасць бесчалавечна ўдарыла мне па сэрцы напачатку майго свядомага жыцця. І гэтага нельга ні забыць, ні замоўчыць...

Ціхім сонечным днём я стаяў каля велічнага, блакітнага, як вымытае неба, будынка нашай Хутарскай царквы на Чэрвеньшчыне і глядзеў, як мясцовыя камсамольскія актывісты караскаліся па вяроўках да залатых купалоў на расправу з Богам. На маіх вачах падалі на зямлю спілаваныя крыжы, гарэлі на кастрах царкоўныя рэліквіі!..

Гэта быў здзек з Бога, і з людзей. І пакуль маўчаў зняважаны Бог, раз'юшана лютаваў Д'ябал. Ён прымаў розныя аблічча, але рабіў адно і тое ж: сеяў паніку, гора і смерць.

Сталінскія апрычнікі пры помачы аглабельнай аргументацыі заганялі маіх аднавяскоўцаў у калектыўныя загарадкі, прымушалі зацюканых і застрашаных калгаснікаў працаваць за пустапарожні працадзень.

Няправедныя суддзі без суда і следства прыгаворвалі найбольш дагледжаныя падворкі да руйнавання, а іх гаспадароў высылалі на гібельнае пасяленне ў далёкае і халоднае бязлюддзе. Берыеўскія інквізітары ноччу, па-зладзейску, хапалі з маёй вёскі малапісьменных сялян і мясцовых інтэлігентаў, каб потым кінуць іх трупы ў ямы Курапат....

А Бог, тым часам, маўчаў. Затое Д'ябал цешыўся, як толькі мог. З году ў год, з году ў год...

З цягам часу я прыцярпеўся і да людскіх і да сваіх уласных нягод. Больш таго, я паверыў у тое, што іменна так і павінна быць у жыцці: у першую чаргу ўзбагачай і ўзвялічвай сваю дзяржаву і яе шмат'ярусных партыйных феадалаў. Ну, а я, непасрэдны ўзбагачальнік і грамадзянін, абавязан цвёрда, як малітву, памятаць неўміручы запавет марксізму-ленінізму — не прагнуць і не цягнуцца да праклятай прыватнай уласнасці. Мой старэйшы рускі брат нават у песні даваў мне талковую параду: «Думай сначала о Родине, а потом о себе...»

Я, вядома, думаў і аб дзяржаве, і аб Радзіме: будаваў, вынаходзіў, вырошчваў, ствараў, са зброяй у руках бараніў і дзяржаву, і Радзіму ад ворагаў. Я ганарыўся сваёй багатай дзяржавай і сваёй калектыўнай уласнасцю: заводамі і фабрыкамі, палямі і лясамі, новымі гарадамі і паселішчамі, палацамі культуры і касмічнымі караблямі...

Бальшавіцкія селекцыянеры метадам нагнятальнага ідэалагічнага трэнажу вывелі небывалую ў свеце людскую пароду пад назвай «савецкі чалавек». Яго прывучылі ганарыцца тым, што яму ніколі не належала, пахваляцца тым, чаго ў яго ніколі не было. А галоўнае, што ён, савецкі чалавек, стаў самым вынослівым і цярплівым чалавекам у свеце. Ён здольны трымаць на сваіх плячах нямыслімы цяжар мноства абавязкаў, не маючы для сябе рэальнага, элементарнага права быць маральна свабодным і матэрыяльна забяспечаным.

Я быў выдрэсіраваным савецкім чалавекам: добрасумленна выконваў свае грамадзянскія абавязкі і не дужа заікаўся аб сваіх правах. Ды і думаць аб іх не было калі. Скінуўшы з плячэй камень адной пяцігодкі, я падпрагаўся пад чарговую...

Цяжкімі валунамі варочаліся гады, перамолваючы людскія жыцці. Я вылузаўся з гэтай крупадзёркі жывым, але назаўсёды параненым. Семдзесят гадоў я быў паддоследнай істотай: на мне выпрабоўвалі моц сацыялізму і камунізму.

Вытрымаўшы гэты зацяглы эксперымент, я згубіў сваю чалавечую годнасць і стаў вінцікам у д'ябальскай машыне, загвоздкай у чужых калёсах, затычкай ад пустой бочкі.

Цяпер, прыціснуты цяжарам гадоў, атручаны малой і вялікай хіміяй, прысыпаны чарнобыльскім пылам, я прадаўжаю жыць ды яшчэ на нешта спадзявацца. Новыя мае ўладары быццам бы робяць намаганні знайсці для мяне паратунак. Яны, як тыя бліны, пякуць для мяне мноства другарадных законаў-скараспелак. Гэтымі глеўкімі «блінамі» я аблеплены з галавы да пятак, а мне што ні дзень, то ўсё горш і горш.

Я, ледзьве жывы, зноў па старой звычцы савецкага чалавека падставіў свой намазолены карак пад новы эксперымент — рыначную эканоміку, якая нагадвае мне зусім не навуковую распрацоўку, а, хутчэй за ўсё, нічым не прыкрыты рабунак беднага ў карысць багатага.

Ці вытрымаю гэты раз? Гэтага не ведае ніхто: ні я, ні Бог, ні Вярхоўны Савет рэспублікі.

Гарбачоўская перабудова запіхнула мяне ў самае пякельнае месца — паміж Кавадлам і Молатам. Спадары дэмакраты, па волі злога лёсу, заляглі кавадлам, а па мне зверху луплць молатам таварышы камуністы...

Божа, твая воля! Ужо дзевяты год, сцяўшы зубы, я гартуюся ў гэтай гарачай кузні і не бачу аніякага збавення. Праўда, распараныя малатабойцы ў час кароткага перадыху спрабуюць мяне суцешыць: маўляў, не гнявi Бога, у суседніх з намі дзяржавах простаму люду даводзіцца яшчэ горш, чым табе, якая ж трасца табе яшчэ трэба? Пацярпі, нябога, прыйдзе свята і на тваю вуліцу...

Я многа гадоў чакаў гэтага свята, а цяпер усе чаканкі згубіў. Якое можа быць свята, калі вакол мяне не засталося нічога святога! Навідавоку Зло плюе на Дабро, Мана душыць Праўду, а Дурнота пасміхаецца з Розуму...

Часам блукаю па родных мясцінах, дзе нарадзіўся і вырас, і жахаюся: як жа ты састарылася, мая дарагая Чэрвеньшчына! Відаць, не ад лепшага жыцця апусцелі твае двары і хаты. Вясёлы і хлебны горад спакусіў і заманіў на свой шырокі асфальт маладых і дужых хлебаробскіх сыноў і дачок, апусцела вёска, панішчыліся яе векавыя традыцыі.

Каб неяк заткнуць гэтую небяспечную вясковую дзірку, дзяржава штогод кідае туды мільёны. А яны — што вада ў рэшаце. Па-ранейшаму кожную восень шуміць шматстайная — ад школьніка да навукоўца — усебеларуская талака, ратуючы ўраджай на сірочай зямлі. Цудоўны народны звычай стаў палітычнай палачкай-выручалачкай.

А сёння і сяляне-гараджане, мае чэрвеньскія землякі, становяцца лішнімі людзьмі. Горад не прыкладзе розуму, як ад іх пазбавіцца, а яны не ведаюць, куды ім падацца, каб выжыць. Адны з іх тлумяцца ў чэргах з надзеяй атрымаць нейкі мізэр па беспрацоўю, другія з надзеяй выглядваюць з вузкіх фортачак камерцыйных шпакоўніц, што ператварылі горад у шанхайскія кварталы, а трэція шукаюць паратунку на Камароўскім і Чэрвеньскім рынках. Як гаворыцца, ад неба адарваліся, а да зямлі не дапялі...

Вярхоўны Савет мог бы пазбавіцца гэтай хранічнай горасці, калі б рашыўся прыняць закон аб прыватнай уласнасці на зямлю. Але дзе там! Камуністычнай большасці ў парламенце не падабаецца прыватная ўласнасць наогул, а на зямлю — тым больш. Ім падабаецца Усесаюзная талака...

Вось так і жыву — ад талакі да талакі. Жыву і не перастаю здзіўляцца бездапаможнасці маёй Рэспублікі. Яна аніяк не можа выйсці з дзіцячага ўзросту. Ёй, відаць, падабаецца быць нейчай дачушкай-немаўляткай і не адрывацца ад матчыных грудзей...

Калі ж, нарэшце, яна стане на ўласныя ногі і зробіць самастойны крок у гісторыю? Няхай кволы, нясмелы, але свой?..

А пакуль што тужэй падцягваю раменьчыкам жывот і жыву больш упрыглядку, чым упрыкуску. Замежныя дабрадзеі дзе за валюту, а дзе і ў выглядзе міласціны шлюць харчовыя тавары, каб я, крый Божа, не працягнуў ногі з галадухі. Яны настойліва талдычаць мне, гультаю і няўмеку, як трэба жыць. Зарубежныя спяцы ўсіх профіляў і рангаў хлынулі ў маю краіну, каб паказаць, як лепш, па-сучаснаму рабаваць, забіваць, гвалціць, здзекліва цешыцца жаночым целам. І трэба прызнацца, што настаўнікі аказаліся з вялікім педагагічным і, асабліва, палітычным вопытам. Амерыканскія баевікі запаланілі нашы кінатэатры і тэлеэкраны. Эстрадныя зоркі ўсіх плыняў і накірункаў круглыя суткі спяваюць, а часцей хрыпяць, стогнуць, лямантуюць на чужой мне мове. Чужая, бессаромная маскультура гуляе і разбойнічае ў маёй бездапаможнай дзяржаве, як у сваёй вотчыне.

Нагляджуся, наслухаюся імпартных жахаўстрахоццяў, і ноччу мне трызняцца амерыканскія індзейцы-абарыгены часоў Фенімора Купера. У страшных і гарачых снах я разам з імі, нароўні, танцую вакол кастра рытуальныя танцы, урачыста і гартанна спяваю пераможныя дзікунскія песні, размахваючы свежымі скальпамі.

Прачынаюся, атрасаю з вачэй сонную смугу, і на мяне зноў навальваецца непраўдападобная абыдзёншчына. З розных куткоў і шчылін вылазяць розныя калдуны, клікушы, маньякі, вампіры, людаеды.

Чытаю прэсу, гляджу тэлевізар, слухаю радыё, і мне становіцца моташна. Што ні дзень — адно і тое ж:

Выходзяць з дому і нямаведама куды знікаюць дзеці і дарослыя...

Лезуць у пятлю старыя і маладыя...

Штодзённа некага забіваюць, рэжуць, сякуць, душаць, топяць, спальваюць.

Астролагі, вешчуны і псіхі прадказваюць канец свету...

Я патрохі прывыкаю да крыві, да гора, да слёз, да псіхозу, да дзікунства...

Што ж ты са мною робіш, Суверэнная і Незалежная?

У той час, калі тэарэтычна любая кухарка магла кіраваць дзяржавай, а практычна ёю кіравалі камуністычныя феадалы, я неяк яшчэ ліпеў, меў запрацаваны кавалак хлеба і да хлеба. І голым не хадзіў. Цяпер кіруюць мною тыя ж самыя камуністычныя важакі, і я паціху аддаю канцы. Па-ранейшаму палацавая і прыпалацавая камарылля правіць свой баль. Укормленыя і дагледжаныя «белыя каўнерыкі» з поваду, а часцей без повадy сноўдаюцца за мой кошт па блізкім і дальнім замежжы, цягаючы за сабою доўгія хвасты родзічаў і блізкіх. У дастатку і раскошы яны прафесійна, прыгожа і словаблудна распавядаюць аб свабодзе і справядлівасці. Хіба гэта не кашчунства? Ваўкам у авечай шкуры ўсё адно, што пры сацыялізме, што пры Суверэннай і Незалежнай. Ім заўсёды, як гаварыў мой дзед, і ўлежна, і ўежна...

А вось я, аблапошаны і зняважаны ў гэтым грамадстве — калі яго можна яшчэ назваць грамадствам, — пераступіў той фатальны рубеж, за якім наогул нічога няма. Пустэча. У мяне адабралі маё мінулае. І выходзіць, што я нічога не зрабіў карыснага за свой кароткі чалавечы век. Быццам я і не жыў на свеце. Быццам не абліваўся крывёю на мёрзлым Карэльскім перашыйку, не гніў у сырых партызанскіх зямлянках, не захлынаўся горкім дымам Вялікай Айчыннай вайны, не мазоліў рук на пасляваенных будоўлях... Гэта было некалі ў другой дзяржаве, якая нечакана знікла, як Атлантыда. Выходзіць, што я не шкадаваў ні крыві, ні поту, ні самога жыцця ў імя краіны, якой няма! Мае баявыя і працоўныя ўзнагароды дэвальвваваліся нароўні з драўляным рублём... Гэта ўжо трагедыя. Тупік. Гэта мая канечная станцыя. Ехаць мне ўжо няма куды і я ўжо толькі гляджу, як, нібыта тую ліпку, абдзіраюць мой родны край. Тут усё прадаецца і ўсё купляецца, як у завозныя дні на Камароўскім рынку. Прадаюць багатыя, а купляюць яшчэ багацейшыя. А крадуць оптам і ў розніцу і тыя і другія ў цеснай садружнасці з усясільнай мафіяй. Мне ў гэтай рыначнай таўкатні, з маімі даўно спустошанымі кішэнямі, на гэтым злачынным рынку безнадзейна шукаць Справядлівасці. Я бяспраўны і абяздолены. Я стаю на абочыне. Жыву і тлею ў чаканні немаведама чаго і немаведама ад каго. Як істы хрысціянін, я пакорліва і натужна валаку свой крыж на Галгофу...

**Міхась ПЯНКРАТ**

1919 г. у палацы кн. Паскевіча. Складаўся з аддзелаў: рэвалюцыйнага руху, краязнаўства, побыту абшарнікаў Паскевічаў-Румянцавых і парцэлянавай вытворчасці. Найбольш каштоўныя рэчы перахоўваліся ў двух апошніх аддзелах. У сярэдзіне 30-х гг. прынялі афіцыйнае рашэнне аб зачыненні музея, але па невядомых прычынах яно не было здзейснена. У 1941 г. частка фондаў была эвакуіравана ў г. Урупінск Валагодскай вобл., рэшта загінула ў часы акупацыі.

7. Магілёўскі гістарычны музей заснаваны як губернскі музей у 1919 г. на базе экспанатаў царкоўна-археалагічнага музея і музея статыстычнага камітэта. Сярод унікаў былі: крыж Е. Полацкай, абраз Бялыніцкай Маці Боскай XIII ст., срэбраны і залаты ключы, падараваныя гораду Кацярынай II, карціны Айвазоўскага, Рэпіна, Сярова, калекцыя зброі X—XIV стст., калекцыя парцэляны і інш. У 30-я гг. музей некалькі разоў змяняў назву, страціў шмат каштоўных помнікаў. Канчаткова фонды знішчаны падчас II сусветнай вайны.

8. Дом-музей С. Арджанікідзе існаваў у 30-я гг. у якасці філіяла Магілёўскага гістарычнага музея на месцы баёў Чырвонай Арміі з польскімі войскамі ў раёне р. Бярэзіны /у гэтых баях удзельнічаў С. Арджанікідзе/. Пасля вайны не аднаўляўся.

9. Віцебскі гістарычны музей заснаваны у 1918 г. як мастацка-археалагічны і прыродазнаўчы, у будынку б. духоўнай семінарыі. Аснову фондаў, дзе захоўвалася больш за 30 тыс. адзінак, складалі калекцыі А. Брадоўскага, В. Федаровіча, царкоўна-археалагічнага старажытнасховішча і музея Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. Экспазіцыя падзялялася на аддзелы: археалагічны, гістарычны, мастацкі, этнаграфічны, царкоўны і сучаснай прамысловасці. Сярод найбольш каштоўных экспанатаў былі археалагічныя знаходкі з Віцебскага замчышча, старажытная зброя /у т. л. паўстанцаў К. Каліноўскага/, сцягі сярэднявечных цэхаў, карціны І. Айвазоўскага, М. Шагала, П. Канчалоўскага, С. Юдовіна, багаты нумізматычны кабінет і інш. У рэлігійным аддзеле знаходзіліся мошчы св. Е. Полацкай. У пачатку 30-х гг. музей рэарганізаваны, яго дырэктар Я. Васілевіч як «класавы вораг» звольнены.

10. Віцебскі антырэлігійны музей адчынены у 1940 г., складаўся з царкоўнага аддзела Віцебскага гістарычнага музея, фондаў Віцебскага заалагічнага музея і рэчаў з зачыненых цэркваў Віцебшчыны. Спыніў існаванне ў гады нямецкай акупацыі.

11. Баранавіцкі краязнаўчы музей створаны ў 1929 г. па ініцыятыве мясцовага настаўніка Л. Турскага. Складаўся з аддзелаў прыроды, этнаграфіі, гісторыі. У апошнім дэманстраваліся: зброя, нумізматыка, парцэляна, драўляная скульптура з замка Сапегаў у Новай Мышы і інш. У 1940 г. пераўтвораны ў музей выяўленчага мастацтва /у гэты год у музей было звезена шмат жывапісу, скульптуры, мэблі, рэчаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з навакольных панскіх маёнткаў/. Калекцыі разрабаваны ў гады нямецкай акупацыі.

12. Пінскі краязнаўчы музей заснаваны палескім таварыствам краязнаўства ў 1924 г. /адчынены ў 1926 г./. Дзякуючы намаганням дырэктара Д. Георгіеўскага ў музеі былі сабраны калекцыі па этнаграфіі, флоры, фаўне і гістарычным мінулым Палесся /усяго 18 тыс. адзінак/. У 1939 г. пераўтвораны ў абласны гісторыка-краязнаўчы музей. Прыкладна палова экспанатаў знікла ў гады нямецкай акупацыі.

13. Да вайны толькі планавалася яго стварэнне.

14. Бабруйскі краязнаўчы музей быў створаны ў 1924 г. мясцовымі краязнаўцамі, у прыватнасці энтузіястам музейнай справы Ц. Славіным, займаў 4 пакоі ў будынку па вул. Сацыялістычнай. Меў калекцыі па археалогіі, этнаграфіі і прыродзе Бабруйшчыны. У асобных аддзелах дэманстраваліся рэчы фабрычна-заводскага жыцця і сельскай гаспадаркі. У 1932 г. экспазіцыя рэарганізавана з мэтай дэманстрацыі поспехаў сацыялістычнага будаўніцтва. Перастаў існаваць у гады нямецкай акупацыі.

15. Полацкі краязнаўчы музей заснаваны ў 1926 г. пад кіраўніцтвам С. Мялешка ў будынку Сафійскага сабора, падзяляўся на культурна-гістарычны, грамадска-эканамічны і прыродна-геаграфічны аддзелы. Найбольш каштоўныя рэчы перахоўваліся ў культурна-гістарычным аддзеле: слуцкія паясы, грашовыя скарбы, зброя, археалагічныя знаходкі, 67 партрэтаў дзеячаў Дамініканскага ордэна, друкарскі станок XVIII ст., старадрукі і рукапісы, у т. л. запіскі студэнтаў Полацкай езуіцкай калегіі. Музей быў разрабаваны падчас II сусветнай вайны.

16. Барысаўскі краязнаўчы музей заложаны ў 1924 г. За некалькі наступных гадоў пад кіраўніцтвам В. Самцэвіча было сабрана шмат рэчаў мясцовай прыроды і побыту. Памяшчаўся ў будынку педтэхнікума.

17. Ваўкавыскі краязнаўчы музей створаны ў 1935 г. на аснове прыватнага збору Г. Пеха, які з 1925 г. збіраў і вывучаў каштоўныя археалагічныя матэрыялы, дакументы XVI—XVIII стст., нумізматыку, баністыку і інш.

18. Слонімскі краязнаўчы музей створаны ў 1929 г. на аснове прыватных калекцый археалогіі, нумізматыкі, дакументаў і старадрукаў І. Стаброўскага. Сярод рарытэтаў былі беларускія старадрукі, асобныя археалагічныя знаходкі, аўтографы А. Пушкіна, Л. Талстога, М. Карамзіна і інш. Падчас II сусветнай вайны большасць калекцый захавалася.

19. Рэчыцкі краязнаўчы музей закладзены ў 1928 г. пры 1-ай школе-дзевяцігодцы. Вылучаўся грунтоўнымі прыродазнаўчымі калекцыямі.

20. Тураўскі краязнаўчы музей быў закладзены ў 1925—27 гг. у ходзе збіральніцкай працы мясцовага краязнаўчага таварыства і экспедыцый БДУ /археалогія, этнаграфія, нумізматыка, прыродазнаўства, царкоўнае начынне/. Займаў некалькі пакояў у народным доме. Тлумачэнні наведвальнікам давалі экскурсаводы з ліку добраахвотнікаў.

21. Спачатку, у 1924 г., у Оршы былі заснаваны два музеі: сельскагаспадарчы /меў аддзелы вытворчасці, лугаводства, паляводства, заалагічны, батанічны, энтамалагічны/ і культурна-гістарычны /дэманстраваліся этнаграфічныя, археалагічныя, мастацкія помнікі/. У 1927 г. аб'яднаны ў адзін акруговы краязнаўчы музей.

22. Гомельскі антырэлігійны музей існаваў у 1939—41 гг., быў створаны на базе антырэлігійнага аддзела Гомельскага гістарычнага музея /а дакладней, рэчаў былога магілёўскага царкоўна-археалагічнага музея/.

23. Гродзенскі прыродазнаўчы музей адчынены ў 1926 г. на базе прыватнай калекцыі С. Жыўна, які да 1939 г. выконваў абавязкі захавальніка музея. У 1939 г. фонды налічвалі звыш 7 тыс. адзінак /мінералогія, заалогія, батаніка/. Пасля вайны большасць калекцый была далучана да Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея.

24. Гродзенскі гістарычны музей адчынены ў 1922 г. мясцовай камісіяй па ахове помнікаў мастацтва і культуры. У 1922—1939 гг. пад кіраўніцтвам загадчыка музея Ю. Ёдкаўскага былі створаны буйныя гісторыка-культурныя калекцыі, агульнай колькасцю звыш 16 тыс. адзінак. Сярод іх — каштоўныя археалагічныя і этнаграфічныя матэрыялы, абразы, старадрукі, нумізматыка, слуцкія паясы, асабістыя рэчы гістарычных асоб. Большасць калекцый знікла ў гады вайны.

25. Гродзенскі літаратурны музей — мэецца на ўвазе дом-музей Э. Ажэшкі, існаваўшы у 30-я гг.

26. Гродзенскі батанічны сад створаны ў сярэдзіне 20-х гг. сябрамі батанічнай секцыі гродзенскага таварыства аматараў прыроды. Сад меў навукова-асветніцкі накірунак дзейнасці і падзяляўся на аддзелы сістэматыкі, біялогіі, лекавых раслін, дрэў і кустоў.

27. Слуцкі краязнаўчы музей утвораны ў 1921 г. мясцовым краязнаўчым таварыствам «Папараць-кветка» /адказваў за гэтую справу А. Бараноўскі/ у будынку б. гімназіі. Лічыўся адным з лепшых беларускіх краязнаўчых музеяў. Сярод яго унікаў былі партрэты слуцкіх князёў Алелькавічаў, рукапіснае евангелле XVI ст., епітрахіль, посах і срэбная рыза XVI ст., кальвінская біблія берасцейскага выдання 1563 г., малюнкі мастака Катарбінскага і інш. Усе помнікі былі згрупаваны ў тры аддзелы: культурна-гістарычны, прыродна-геаграфічны і грамадска-эканамічны, якія аглядалі ў сярэднім 150 асоб штодзённа.

28. Мазырскі краязнаўчы музей адчынены мясцовым краязнаўчым таварыствам у пачатку 1929 г. Меў багатыя аддзелы археалогіі, этнаграфіі, а таксама дакументаў і рэчаў, якія адлюстроўвалі грамадска-палітычныя падзеі на Мазыршчыне ў 1917—1925 гг.

29. Нараўлянскі краязнаўчы музей падчас заснавання ў 1927 г. меў крыху больш за тысячу экспанатаў. Гуртаваў вакол сябе ўсю працу мясцовага краязнаўчага таварыства, у наступныя некалькі гадоў развіваўся шпаркімі тэмпамі /у прыватнасці, фонды музея ўзбагаціліся за кошт мастацкіх збораў Горватаў/.

30. Мсціслаўскі краязнаўчы музей адчынены ў 1926 г. у кармяліцкім кляштары, дзе дэманстраваліся калекцыі па прыродазнаўстве, этнаграфіі, а таксама грашовыя скарбы.

31. Наваградскі краязнаўчы музей — маецца на ўвазе існаваўшы ў 30-я гг. невялічкі музей у мястэчку Nowogrod, цяпер горад у Ломжынскім павеце Беластоцкага ваяводства РП.

32. На самай справе зачыненых музеяў было значна больш. Толькі ў Мінску на працягу 30-х гг. зніклі заалагічныя, тэатральныя і археалагічныя зборы інбелкульта, музей паліткатаржаніна, музей пры Доме Чырвонай Арміі, музей аховы і аздараўлення працы, музей судовай медыцыны, політэхнічны музей пры Цэнтральнай школьнай станцыі, музей санітарнай асветы.

**Аляксандр ГУЖАЛОЎСКІ**

Паэтычным радком

***Амаль сем гадоў будаваўся дом творчасці пісьменнікаў у светлым бары над крынічнаю Ісласчу.***
***Не ўсіх цешыла яго архітэктура, але сагравала душы і натхняла атмасфера таварыскасці, узаемнай увагі і павагі паэтаў і празаікаў з усіх рэспублік былога Саюза.***
***Дом будаваўся і абсталёўваўся за сродкі Літфонда, а дакладней — за адлічэнні з кожнай кнігі і публікацыі. Як у ім добра жылося і працавалася! Колькі там напісана!***
***І вось у наш рыначна-спекулятыўны час пісьменнікі пазбавіліся свайго дому: астранамічныя цэны на пуцёўкі закрылі ім дарогу на Іслач.***
***Але дом не пустуе. Асабліва ў выхадныя ён шуміць і грыміць днём і ноччу, гаспадаром у ім адчувае сябе ўкормленая, упітая і разбэшчаная моладзь з кланаў сучасных мільянераў. Яна імчыцца туды на імпартных машынах са скрынкамі пітва і харчоў, з паненкамі і сабакамі.***
***Толькі некалькі фактаў з таго, што там чаўпецца, я паспрабаваў зарыфмаваць у гэтых «слязніцах».***
***Ці не пара памяняць шыльду на адпаведны сімвал, каб надалей не кампраметаваць і без таго неаднойчы зняважаны наш творчы саюз і слова «пісьменнік»?***

## Дадатак да кнігі «ТАМ, ДЗЕ БРУІЦЦА ІСЛАЧ»

**Саманадзейны камерсант**
**На Іслач выкінуў дэсант.**
**Нуворышы каля ракі**
**Да рання смажаць шашлыкі,**
**А каб не стаў у горле ком,**
**Іх запіваюць каньяком.**
**Шампанскае цякло ракою,**
**А бедным не было спакою.**
**Хлапцы ад хэнці аж каналі,**
**Дзяўчатак дружна распіналі**
**І выступалі ў розных ролях**
**У лазні і на антрэсолях,**
**Пілі, сварыліся, курылі**
**І лес нарэшце падпалілі,**
**А ў панядзелак свой дэсант**
**Павёз у горад дыверсант.**
**У пятніцу зноў па абедзе**
**Дэсант ну-вор-ышаў прыедзе.**

## РАЗВІТАННЕ З ІСЛАЧЧУ

**Тут некалі жылі паэты,**
**Шукалі тут натхнення мы,**
**Адны — ад восені да лета,**
**Другія — з лета да зімы.**

**І вось прыйшла пара расстацца**
**І больш сюды не завітаць,**
**І вынік нашай доўгай працы**
**Зноў чорту лысаму аддаць.**

**Відаць, наш замак традыцыйны**
**Прыдбае новы гаспадар, —**
**Рэвалюцыйна-камерцыйны**
**Павесіць новенькі ліхтар.**

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

По старонках друку

# ПОЛЬСКІ ПАНТЭОН РАЗВАЛЬВАЕЦЦА Ў РУІНЫ

***Наша газета рэдка робіць перадрук з іншых выданняў. Але ў дадзеным выпадку гэта мае сэнс, бо звесткі, нагаданыя ў допісе беластоцкага «Часопіса», агульнавядомымі назваць нельга, хоць для людзей дасведчаных у гісторыі беларуска-польскіх дачыненняў таямніцай яны ніколі не былі. Ды і чаму зрэшты проста не прыгадаць нашых землякоў, што плённа папрацавалі на суседняй ніве?***

Усё пачалося ад Адама Міцкевіча. Грамадскасці стала вядома выказанае некім неасцярожна па тэлевізары сцвярджэнне аб разнастайных, на жаль, прыкметах праўдападобнасці, што пясняр быў беларуска-яўрэйскага паходжання. Бо Міцкевічы, вядома, нашчадкі нейкага Міцькі, альбо Дзмітрыя, бацька Адама — Мікалай, дзядзька — Базыль, а бабуля, што тут утойваць, яўрэйка! Гэтага было ўжо занадта для членаў магістрата горада Лодзь, і яны перайменавалі вуліцу Міцкевіча на Пілсудскага. Не паспелі змяніць назвы, як на сапраўдных палякаў спаў чарговы ўдар. На паверхню выплылі дакументы, у якіх асоба, вядомая ў Польшчы як маршал Юзэф Пілсудскі, сцвярджае, што завецца ён Восіп Восіпавіч /!/ Пілсудскі, што ён каталіцкага веравызнання, паходжання — шляхецкага, а нацыянальнасці — беларускай. На гэты раз усе нібы вады ў рот набралі, бо што тут скажаш?

Але ж на гэтым не канец. Нейкі Радэк Сікорскі, які задоўга знаходзіўся ў цёплых краінах і забыўся, што дрэнная тая птушка, якая паганіць уласнае гняздо, меў нахабства сцвердзіць, што Начальнік Касцюшка не быў палякам. Радэк мяркуе, напэўна, толькі пра тое, што Касцюшка меў большую ўладу, чым ён сам, усяго толькі віцэ-міністр нацыянальнай абароны, і меў амерыканскае грамадзянства, у той час як пан віцэ-міністр — брытанскае. Урад, аднак, выдаў заяву, што няпраўда, нібы Начальнік не быў палякам. Але што ж з таго, дастаткова рушыць камень, каб пасыпалася лавіна.

Як было ў сапраўднасці з тым Касцюшкам? Сам называе сябе ліцвінам, што ў XVIII стагоддзі азначала жыхар Вялікага княства Літоўскага, хутчэй сённяшняга беларуса, чым літоўца, бо тых звалі ў свой час жмудзінамі. Зрэшты, Касцюшкі /нашчадкі Косьці альбо Канстанціна/ аселі на зямлі Бярэсця, на беларускім Палессі. Аднак тое, дзе і калі нарадзіўся будучы Начальнік, і як яго ў сапраўднасці звалі, да сённяшняга дня застаецца загадкай. Вось найбольш праўдападобная версія.

Быў ахрышчаны сваёй праваслаўнай маткай Тэкляй /Фёклай/, дзявочае прозвішча якой Ратомская, у царкве як Андрэй, у гонар апостала Андрэя, свята якога прыпадала якраз на той дзень. Часы тады не былі лепшымі для іншаверцаў, чым сёння, і шляхецкіх дзяцей, ахрышчаных раней у царкве, хрысцілі паўторна, каб не зачыняць перад імі дзверы да кар'еры. Вось чаму і Касцюшкі 12 лютага 1746 года ў касцёле ў Косаве ахрысцілі Андрэя Тадэвуша Вонавэнтурэ Касцюшку. Адсюль прыблізна месцам яго нараджэння называецца Мерачаўшчызна пад Косавам. Якое хрышчэнне было важнейшым — пакінем гэтае пытанне для вырашэння тэолагам. Быць можа, у Косаве толькі афармілі фіктыўныя метрыкі, што ў тыя часы часта практыкавалася. Сам Касцюшка на працягу жыцця захоўваў рэлігійную абыякавасць.

І адкуль жа нам гэта вядома? Механізм, які сёння замяняе Тамару ў Тэрэзу, Ніну ў Яніну, а Мікалаяў у Казікаў і Збышкаў, якія нідзе /г. зн. ні ў адзін храм/ не ходзяць, — гэты механізм быў запушчаны даўным-даўно.

Цікава таксама і тое, што, як і многія нашы сучаснікі, Касцюшка перастаў маскіравацца пасля вяртання з Амерыкі, куды ў свой час даўся «на хлеб». Пракламацыю паўстання ў Вялікім княстве Літоўскім выдаў на беларускай мове, вяртаючы тым самым ёй пасля ста гадоў дзяржаўны характар, і падпісаўся кірыліцай «Фадей Костюшко». Пэўна, не падпісаўся Андрэй, бо ніхто б не ведаў, што за ён, але па крайняй меры з Тадэка стаў Федзькам.

Глядзі, Касцюшка, на нас з неба, хто наступны?

**Алег ЛАТЫШОНАК**

*/«Часопіс», N 5, 1992 г., Беласток/*

# СІМВОЛІКА СКАРЫНЫ

Семантыка скарынаўскіх сімвалаў і знакаў тэма выключна важная і мала распрацаваная.

Паходжанне першага сімвала «Сонца і месяц» — аўтарскай манаграмы і выдавецкай маркі Скарыны — дастаткова падрабязна вывучана і асобна спыняцца на ім няма неабходнасці. Звернем увагу на другі і трэці знакі.

Гэтыя сімвалы не маюць канкрэтнай назвы. Пры апісанні і тлумачэнні звычайна прыводзяць іх непасрэдныя выявы. Для большай зручнасці наладзім ім умоўныя найменні — «Т»- і «К»- знакі /адпаведна паслядоўнасці, у якой яны прыведзены на ілюстрацыі/.

Разам з сімваламі «Белае поле» /апошні на малюнку/, «Сонца і месяц» /першы/, «Т»- знак прысутнічае на тытульным лісце Біблії. Ён сустракаецца толькі разам з сігнетам «Сонца і месяц». Невядома ніводнага прыкладу яго асобнага ўжывання. За выключэннем партрэта, на ўсіх фігурных гравюрах, тытульным лісце, на адной з віньетак ён прыведзены «ў лінію» побач з аўтарскай меткай. Цікава, што не наглядаецца ўстойлівага размяшчэння аднаго знака адносна другога. На тытульным лісце і віньетцы злева змешчаны сігнет, справа — «Т»-знак. У іншых выпадках сустракаюцца прыклады і адваротнага размяшчэння.

Згодна з існуючымі меркаваннямі, «К»-знак прысутнічае толькі на гравюры «Доктар Францыск Скарына». Выявы «Т»- і «К»-знакаў знаходзяцца адпаведна злева і справа ад галавы вучонага. Прыведзены яны на геральдычных шчытах, на якія апіраюцца львы. Такая акалічнасць паслужыла падставай многім даследчыкам бачыць у іх выявы гербаў. Мелі месца і іншыя прапановы. Яны падрабязна апісаны В. Шматавым у кнізе «Спадчына Скарыны. Зборнік матэрыялаў Першых Скарынаўскіх чытанняў /1986/», выдадзенай у 1989 г.

Я. Неміроўскі ў кнізе «По следам Франциска Скорины» /1990 г./ называе «Т»- і «К»-знакі «таямнічымі». Гэта ацэнка адлюстроўвае стан праблемы і недасканаласць вядомых тлумачэнняў. Такое становішча абумоўлена ў значнай ступені памылковым выбарам напрамку пошуку. Справа ў тым, што ні адзін з названых сімвалаў не мае адносін да фамільных гербаў.

Ключом для разгадкі «Т»-знака, які ўяўляе сабой прыклад рэбуснага пісьма, нам паслужыць вылучэнне яго асобных элементаў і прачытанне тэкстаў уводзін і пасляслоўяў. Адзначым, што І. Штрытэр бачыў у ім спалучэнне вялікіх літар Т і Б. На прысутнасць літары Т указвалі П. Уладзіміраў і У. Стасаў. М. Шчакаціхін і Л. Баразна таксама выдзялялі літару Б. Патрэбна пагадзіцца, што менавіта гэтыя дзве літары Б і Т складаюць частку сімвалічнага тэксту. Калі ўважліва прачытаць прадмовы і пасляслоўі, то можна заўважыць, што практычна ў кожнай кнізе Біблії Скарына адзначае, што яго праца выканана «С ПОМОЩИЮ В ТРОИЦЕ ЕДИНОГО БОГА» ці «КО ЧТИ И К ПОХВАЛЕ БОГУ В ТРОИЦЕ ЕДИНОМУ». Прысвячэнне сваёй працы БОГУ Ў ТРОІЦЫ АДЗІНАМУ сустракаецца ў розных варыянтах, аднак сэнс прысвячэння застаецца нязменным. Няцяжка здагадацца, што сімвалам адзінства на «Т»-знаку з'яўляецца трохкутнік.

Пасля прачытання «Т»-знака, які цяпер можна назваць «Троіца», ніякіх цяжкасцей не ўяўляе трактоўка «К»-знака. Гэта вобразная выява кароны. Знак «Карона» невыпадкова сустракаецца на партрэце асветніка. Разам з «Троіцай» ён адпавядае «БОЖЕСТВЕННОЙ И ЖИТЕЙСКОЙ МУДРОСТИ» Скарыны, кіруючыся якой ён прысвячае сваю працу БОГУ Ў ТРОІЦЫ АДЗІНАМУ І «НАЛАСКАВШЕМУ ГОСПОДАРЮ ЖИКГЫМОНТУ КАЗИМИРОВИЧУ», вялікаму князю Літоўскаму і каралю Польскаму. Менавіта ён на працягу ўсёй выдавецкай дзейнасці асветніка заставаўся на каралеўскім троне.

Прыведзеныя намі прачытанні сімвалаў невыпадкова настолькі простыя: Біблія Скарыны адрасавалася шырокім масам, прадстаўнікам самых розных саслоўяў. Аднак гэта не аргумент для навуковых даследаванняў. Да таго ж, мы ведаем, што чытацкая аўдыторыя падзялялася Скарынаю на людзей простых і мудрых. Таму прадоўжым абмеркаванне.

Адзначым, што прысутнасць сімвала «Карона» на партрэце асветніка лагічна абаснавана, паколькі твор носіць свецкі, а не біблейскі характар. Гэтай акалічнасцю можна растлумачыць, што на гравюрах «Карона» сустракаецца рэдка — толькі два разы. Зразумела, што не было ніякай патрэбы выносіць яе і на тытульны ліст Біблії, паколькі Біблія — гэта Святое пісанне і ніякіх асабістых прысвячэнняў яно мець не можа. Другім творам, на якім сустракаецца знак «Карона», з'яўляецца самая багатая на сімволіку гравюра «Ізраілевы палкі ля храма божага». Выява сімвала тут больш канкрэтная, без крыжа, што, трэба меркаваць, больш адпавядае біблейскаму сюжэту. Прысутнічаюць на ёй і знакі «Сонца і месяц» і «Троіца». Усе сімвалы ўпрыгожваюць сцягі авангарда войска. На гравюры выразна падкрэсліваецца прыналежнасць «Кароны» вялікаму князю Літоўскаму і каралю Польскаму Жыгімонту І Старому. Дасягаецца гэта наступным чынам: адразу ж пасля сімвала «Карона» змяшчаецца сцяг з выявай фрагмента герба князёў Астрожскіх. Нагадаем, што менавіта Канстанцін Астрожскі, кашталян віленскі, быў добра вядомым чалавекам. Ён узначальваў вялікакняжацкае войска і атрымаў бліскучыя перамогі больш чым у паўсотні баях, у тым ліку над маскоўскім войскам у 1514 годзе ў бітве пад Воршай. Як бачым, слава князёў Астрожскіх не абыдзена ўвагай Скарыны.

Апошні аб'ект нашага абмеркавання — сімвал «Белае поле». Разам з сігнетам «Сонца і месяц» і прысвячэннем «Троіца» ён упісаны ў цудоўны ўзор дэкаратыўнай рамкі тытульнага ліста Біблії. В. Шматаў лічыць, што на шчыце з белым полем мелася нейкая выява, магчыма, «К»-сімвал, якая потым была зрэзана гравёрам. Такая практыка змяненняў асобных дэталяў дрэварытаў у выдавецкай дзейнасці Скарыны добра вядома. Заўважыць іх лёгка на тых дрэварытах, якія выкарыстоўваліся па некалькі разоў. Тытульны ліст прыведзены, зразумела, адзін раз і мы не маем ніякага права выказваць падобныя



меркаванні па той прычыне, што нас павінна цікавіць мастацкая спадчына ў той форме, якую надаў ёй стваральнік. Нельга пагадзіцца з меркаваннем В. Шматава і па другой прычыне. Справа ў тым, што сімвал «Белае поле» сустракаецца і на адной застаўцы, дзе прыведзены два падобныя чыстыя шчыты, на якія апіраюцца дзікія людзі. /На гэту акалічнасць указвае і Я. Неміроўскі/. Я схільны лічыць, што ў абодвух выпадках Скарына выкарыстоўвае колер у якасці сімвала.

Не выключана, што ў вобразе дзікіх людзей у сюжэце застаўкі Скарына бачыў язычнікаў. Тады белы колер патрэбна разглядаць як сімвал боскага святла, хрысціянства, асветы. Магчыма, аднак, іншае прачытанне: белы колер — народ, душа народная. Такая формула лагічна спалучаецца з тэкстам на тытульным лісце: «БИВЛИЯ РУСКА, ВЫЛОЖЕНА ДОКТОРОМ ФРАНЦИСКОМ СКОРИНОЮ ИЗ СЛАВНОГО ГРАДА ПОЛОЦЬКА, БОГУ КО ЧТИ И ЛЮДЕМ ПОСПОЛИТЫМ К ДОБРОМУ НАУЧЕНИЮ». Усе тры сімвалы — сігнет «Сонца і месяц», прысвячэнне Богу «Троіца» і прысвячэнне людзям паспалітым «Белае поле» — патрэбна разумець як дубліраванне зместу звычайнага тэксту на тытульным лісце сімвалічным пісьмом.

Тут самы час спыніцца і для больш падрабязнага знаёмства чытача з маёй працай прапанаваць звярнуцца да НБА ад 15 сакавіка г. г.

Патрэбна адзначыць, што сімволіка Ф. Скарыны часам адвольна дапасоўваецца да сістэмы кабалістычных знакаў. Глыбока гуманістычная філасофія беларускага тытана сярэднявечча непрыхільная да рэлігійна-містычных поглядаў кабалістаў розных плыняў. Яе аснову складае «САЛОМОНОВА И АРЕСТОТЕЛЕВА БОЖЕСТВЕННАЯ И ЖИТЕЙСКАЯ МУДРОСТЬ». Пры ўсім гэтым поўнае паразуменне літаратурнай і мастацкай спадчыны Скарыны вымагае, безумоўна, адметнай логікі і мудрасці, што неаднаразова падкрэслівае сам асветнік у прадмовах да кніг Біблії. Адпаведна адмысловую, далёка не простую лагічную сістэму ўтвараюць і сімвалы, якія ўжываюцца Скарынаю паралельна з фамільнымі гербамі /к прыкладу, герб Астрожскіх/ і вядомымі старажытнымі геральдычнымі знакамі. Так, найбольш багатая на сімволіку гравюра «Ізраілевы палкі ля храма божага» ўключае ў адпаведнасці з біблейскім сюжэтам тузін знакаў. Аднак Скарына надае ім сучаснае гучанне і адпаведны патрыятычны змест. Сімвалы «Троіца», «Карона», сігнет «Сонца і месяц» і герб князёў Астрожскіх змешчаны побач на пярэднім плане гравюры на разгорнутых сцягах. Скарына падкрэслівае, што мудрасць /сігнет «Сонца і месяц»/, сіла і адвага /герб Астрожскіх/ павінны служыць Богу /«Троіца»/ і дзяржаве /«Карона»/. Патрэбна звярнуць увагу і на паслядоўнасць размяшчэння знакаў адпаведна іх семантыцы: Святая Троіца, мудрасць, дзяржава і толькі потым — сіла і адвага. Чыста біблейская тэма кампазіцыйна адыходзіць на задні план. Ні адзін з прыведзеных на гэтай і іншых гравюрах сімвалаў не мае адносінаў да кабалістыкі.

Памылковай з'яўляецца і апеляцыя да вядомага тлумачэння фрагмента «Т»-сімвала, як выявы шаляў. Справа ў тым, што шырока вядомы ўзор падвесных шаляў з'яўляецца распаўсюджаным элементам сярэдневяковай /к прыкладу, герб Навагрудка/ і сучаснай геральдыкі /юрыдычныя ўстановы/, які не мае нічога агульнага з «Т»-сімвалам. Патрэбна мець вельмі шырокую фантазію, каб прыйсці да падобнай высновы. Калі ж у выяве літары «Т» прыхільнікі такога тлумачэння бачаць апорныя шалі, то неабходна нагадаць, што ў эпоху Скарыны яны не выкарыстоўваліся ні лекарамі, ні алхімікамі, а тым больш — гандлярамі.

Далёкая ад дасканаласці і спроба ўбачыць у «Т»-знаку адпаведныя літары для слова БОГ, бо гэта супярэчыць самой сутнасці сімвалічнага пісьма. Мэта сімвалаў, іх прызначэнне — ёмістае ўвасабленне аўтарскай, падкрэслім, завершанай думкі або абстрактная перадача вобраза ці ідэі ў выяве знака. Да першага тыпу патрэбна аднесці «Т»-знак, які адпавядае формуле БОГУ Ў ТРОІЦЫ АДЗІНАМУ. Да другога — сімвал «Карона», які, як ужо адзначалася вышэй, адлюстроўвае не службу Ўладзе, а традыцыйнае прысвячэнне ўласнай працы канкрэтнай асобе. /Успомнім прысвячэнне паэта-гуманіста Міколы Гусоўскага каралеве Боне і мэту такога прысвячэння/. Менавіта пагэтаму сімвал «Карона» прысутнічае на партрэце асветніка. Дзейнасць Ф. Скарыны настолькі індывідуальная, наватарская і незалежная /нават ад рэлігійных канфесій/, што меркаванне аб яго службе Ўладзе выглядае вельмі ўмоўным.

Асабіста я падзяляю дадзеную «ідэнтыфікацыю» некаторых персанажаў гравюры «Памазанне Давіда» з канкрэтнымі гістарычнымі асобамі — беларускім першадрукаром Францішкам Скарынаю і Вялікім князем Літоўскім і каралём Польскім Жыгімонтам І Старым.

Прапаную звярнуцца да названай гравюры і адзначыць наступнае. Скарына трымае меч у левай руцэ, паклаўшы яго на плячо, у правай — кнігу /?/. Сам асветнік не ў воінскіх даспехах, а ў свецкім адзенні з доктарскім берэтам. Значыць, прафесійныя здольнасці і мудрасць Скарыны /хоць ён і прыбліжаная да караля асоба/ служаць закону, дзяржаве. У сувязі з гэтым нагадаем аб слушным меркаванні Язэпа Юхо, што слаўны палачанін прымаў удзел у стварэнні зводу законаў — першай рэдакцыі Статута Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.

Дэтальны аналіз сюжэтаў скарынаўскіх гравюраў — гэта адзін з напрамкаў дзейнасці сучасных даследчыкаў — прафесіяналаў і аматараў, у якім можна і неабходна пайсці значна далей. Грунтоўныя і разважныя даследаванні з цікавасцю будуць сустрэты чытачамі і, безумоўна, папоўняць скарбніцу Скарыніяны.

**Уладзімір ПАЎЛОВІЧ,**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук**


**ЛіМ**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.**





**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**

**Друкарня "Беларускі Дом друку"**

**Індэкс 63856. Наклад 12.000. Нумар падпісаны 29.07.1993 г.**

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12